
За зоркай надзеі➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Дзверы адчыняюцца➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3084) Год LX Беласток, 21 чэрвеня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Аксамітны летні вечар II

Другі раз пажылыя і маладыя беластачане мелі магчымасць пагуляць на беларускім танцавальным вечары «Аксамітны летні вечар», арганізаваным Звязам у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты». Велізарны шацёр, разбіты на плошчы імя Станіслава Манюшкі паміж Беластоцкім лялечным тэатрам ды Падляшскай операй і філармоніяй, і ў гэты раз не змясціў усіх тых, хто прыйшоў патанцаваць пад музыку калектываў «Гай» і «Чарамшына». Больш чым трохгадзінная забава 7 чэрвеня працягвалася яшчэ ў прыцемках, калі вярталіся балельшчыкі футбольнага клуба «Ягелонія» з матча супраць «Лехіі» Гданьск ды святкавалі выйгрыш беластоцкай каманды, якая здабыла трэцяе месца на чэмпіянаце Польшчы па футболе. Нягледзячы на перасцярогі арганізатараў, гучнае шэсце балельшчыкаў на блізкі Універсітэцкі пляц не парушыў танцаў. **Юлія Сцепанюк**, арганізатарка «Аксамітнага летняга вечара» ад імя Звязу «Шчыты» якраз перад пачаткам мерапрыемства сказала «Ніве»:

— Мы вырашылі арганізаваць танцы, таму што ў мінулым годзе выклікалі яны вялізнае зацікаўленне. Тады, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, увесь шацёр і пляц вакол яго былі запоўнены людзьмі, хацеўшымі весела правесці час з беларускай музыкай. Мы ў «Шчытах» прыйшлі да высновы, што мерапрыемства варта паўтарыць. Запрасілі мы сёлета «Чарамшыну», таму што хацелі ўбачыць, ці людзі будуць весяліцца таксама пры фолькавых рытмах, а не толькі танцавальных, якія можна пачуць у выкананні «Гаю». Беларусы наогул любяць лёгкую, вясёлую музыку, скокі. Ім дастаткова два ці тры рытмы і пачынаюць танцаваць. На «польскіх» танцах людзям патрэбны час, каб раскруціцца. Беларусы — народ, якому пад густ такія танцавальныя вечарынкі і яны ім патрэбны.

Мы спыталіся ў **Марыюша Харужага**, лідара гурта «Гай», адкуль, на яго думку, у людзей патрэба ўдзельнічаць у танцах:

— Таму што, папраўдзе, такіх імпрэз няма. Яны накіраваны на маладых людзей у клубах або дыскатэках. Калі справа даходзіць да старэйшай моладзі, сорак плюс, дык такіх імпрэз спецыяльна арганізаваных для іх проста наогул няма, ёсць толькі адпаведныя акалічнасці імпрэзы, у якіх яны могуць прыняць удзел: навагоднія балі, вяселлі і г.д. На нашым танцавальным вечары выдатна гуляюць не толькі старэйшыя людзі, а на самой справе — усе. Але пажылыя сярод усіх астатніх адчуваюць сябе выдатна, таму што гэта проста іх клімат. Такі вечар адзін раз у год недастаткова, бо куды пойдуць танцаваць пажылыя?

Марыюш Харужы рассакрэціў нам як са сцэны захапіць аўдыторыю да гульні, у чым ён з'яўляецца абсалютным чэмпіёнам:

— Не трэба выдаваць сябе за вялікіх мастакоў. Мы стаім на сцэне, а слухачы перад намі, але мы роўныя. Такім чынам, метад адзін: трактаваць слухачоў, гледачоў па-партнёрску. Не пазбягаць глядзець ім у вочы. Мы павінны глядзець ім прама ў вочы. Трэба наладжваць прамы кантакт, жартаваць — часам нават кінуць прыкольны жарт — і гаварыць на звычайнай, чалавечай мове.




З нагоды выступлення на танцавальным вечары адзначыў:

— Для нас гэта вялікая радасць і гонар, што можам выступіць з «Чарамшынай», таму што сярод гуртоў гэта, несумненна, першая ліга.

З боку сцэны выступленням прыглядалася сям'я Марыюша Харужага, у тым ліку бабуля ягонай жонкі **Валянціна Паплаўская**, родам з Залук:

— Калі я яшчэ была ў калектыве «Каліна», усюды, куды мы ездзілі, былі танцы. І ў Залуках яны калісьці былі, пры свяце і ў нядзелю пры першым доме, якога ўжо няма, зараз за рэчкай. Сама моладзь іх рабіла, значыць, хлопцы іх арганізавалі, і працягваліся яны да раніцы. Хлопцы самі ігралі на гармоніку. У Залуках і ў ваколіцы многія, дзякуючы танцам, пажаніліся.

**Барбара Кузуб-Самасюк**, ініцыятарка стварэння «Чарамшыны» ў 1993 годзе, спявачка і акардэаністка, і, акрамя таго, дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе, у сваю чаргу, прызналася:

— Энергія пасланая са сцэны ў бок публікі вяртаецца да гурта. Гэты энергетычны абмен спрычыняецца да таго, што пачынаее віраваць матэрыя і людзі пачынаюць рухацца. Я сама не хадзіла на танцы. Я з пакалення гэтак званых рокераў і нават калі пачала працаваць у асяродку культуры ў Чаромсе, не арганізавала тыповых «патанцовак», і нават дыскатэк, толькі рокатэкі. Але ж можна танцаваць і пад рок-музыку. Я думаю, што наш рэпертуар прыстае і да такой імпрэзы як гэтыя танцы. Ён гулліvы, хоць крыху інакш аранжаваны. У агульнай складанасці, у нас ёсць вельмі разнастайны рэпертуар. Той старэйшы больш танцавальны, новы, мабыць, крыху менш. Народныя творы маюць простую гармонію і мелодыю, і заўсёды пад іх можна танцаваць.

Дадала: — Уменне іграць на кожным мерапрыемстве, няхай гэта будзе вялікі фестываль, ці вяселле, таму што здаралася нам іграць і на вяселлі, гэта ідэя музыцыравання. Іграючы жывую музыку, трэба ўмець іграць для любой публікі. Калі музыкаў хочуць на розных мерапрыемствах, гэта абазначае, што яны будуць здзейснены. Я лічу сябе такой.

Спявачка «Чарамшыны» **Марыя Здрайкоўская** прызналася нам, што памятае, у прыватнасці, адны танцы, у якіх сама прыняла ўдзел:

— Гэта было ў беластоцкім клубе «Гвінт». Тады я пачала працаваць у Беластоку. Сябры выцягнулі мяне ў гэты клуб на такую свойскую імпрэзу і там я пазнаёмілася са сваім Здрайкоўскім, мужам. З дзяцінства я памятаю, але слаба, такія забавы пад клубам «Калеяж» у Чаромсе. Людзі танцавалі на дашчатай сцэне з нагоды пачатку лета, царкоўных фэстаў альбо Дня чыгуначніка.

Як і год таму, і на сёлетнім «Аксамітным летнім вечары», рэй вадзіў Міхась Сцепанюк, кожны дзень журналіст Радыё Беласток. На гэты раз не пад гальштукам-матыльком, але ў густоўным летніку, пад якім свяцілася майка, выпушчаная ў абмежаванай серыі з нагоды танцаў, якую можна было выйграць у конкурсе на адным з сайтаў сацыяльных сетак.

На акаляючых шацёр лаўках і нізкіх мурках, і нават прама на траве супраць леглага ўзгорка расселася шмат пажылых беластачан, каб — як казалі — проста паслухаць беларускую музыку, паглядзець на танцораў і паўспамінаць аб танцах са сваёй маладосці ў вёсках і мясцовасцях, з якіх яны родам. Жанчыны з гуртка Польскага саюза пенсіянераў № 12 у Дайлідах (большасць у ім складаюць беларусы), з якімі мы сустрэліся ў мінулым годзе, на гэты раз, седзячы на лавачцы ды прытупваючы на месцы, прызналіся «Ніве»:

— Мая першая танцавальная вечарына была ў ПОМе ў Бацікаў-Бліжэйшых каля Сямятыч, таму што я адтуль родам. Была там спецыяльная сцэна, такая вялікая, як цяпер у клубе «Kr g» у Беластоку, па вуліцы Вяжбовай. Памятаю, заўсёды ігралі акардэаніст, скрыпач і бубнач. Там яны таксама ігралі на вяселлях. Танцы былі ў карнавале і з нагоды некаторых святаў. А летам я ездзіла «на дошкі» ў Сямятычы. Цяпер мне 73 гады, а як выйшла адтуль было 20, так што гэта было больш за паўстагоддзя таму.

— Я таксама добра памятаю свае першыя танцы, таму што на іх іграў мой тата, а затым муж. Тата іграў на колішняй гармошцы, а муж на акардэоне. Я родам з Нарвы і на танцы туды мы ў асноўным хадзілі, але калі былі царкоўныя фэсты, усюды мы хадзілі па вёсках, вядома, калі тата з мамай адпусцілі.

Юлія Сцепанюк мяркуе, што ў наступным годзе будзе ў Беластоку трэцяя «патанцоўка»:

— Мы сустрэліся ўжо пасля першай патанцоўкі з пытаннем, чаму яна адбываецца толькі адзін раз у год. Зараз мы эксперыментуем: правяраем што прымецца, а што не, як рэагуе публіка. У нас ёсць ідэя зрабіць праз год танцы з калектывам, які будзе створаны спецыяльна для гэтага выпадку.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Зніта-ванасць

У нашым свеце настолькі ўсё звязана і знітавана, што пакуль нікому не ўдаецца спасцігнуць таямніцы гэтага стварэння. Вось зусім нядаўна ў Непале адбыўся землятрус. І ў гэты ж дзень у беларускім Гродне была зафіксавана падвышаная траўматалогія дзяцей малога ўзросту, якія незразумела шмат спатыкаліся і падалі, разбівалі галовы і пашкоджвалі канечнасці. Здавалася б дзе тыя Гімалайскія горы і дзе наша наднёманская раўніна!? Ці вось, іншы, больш зарэгістраваны і вядомы факт. На нашай Навградчыне ў цудоўным возеры Свіцязь расце надзвычай рэдкая расліна, якая ў батаніцы класіфікаваная як „яванікум тэтраданікум”. Гэтая прадстаўніца флоры расце яшчэ толькі ў адным месцы свету — на востраве Ява (адсюль і назва на лаціне) у Інданезіі. На жаль, вучоныя недастаткова займаюцца такімі дзіўнымі і цяжкавытлумачальнымі фактамі. Хоць найбольш цікаўныя і пранікнёныя даследнікі ўжо досыць даўно вылучылі тэорыю, паводле якой цела чалавека пабудавана паводле мадэлі нашай планеты — Зямлі, якая таксама ёсць адзіным жывым арганізмам. А Зямля сваім парадкам створана адпаведна макрамадэлі ўсяго Сусвету. Толькі так яно ўсё і можа існаваць, а значыць палягчае разуменне ўладкавання гэтага свету. Ды толькі спазнаць вялікую таямніцу быцця не дадзена нікому з людзей. Пакінем зараз вышэйшыя загадкі ў спакоі. Вось самае простае пытанне: чаму адны людзі становяцца злымі, а іншыя — добрымі. Што добрыя могуць стаць злымі — напэўна, а вось ці злыя могуць стаць добрымі? Гісторыя ведае нібыта шмат прыкладаў навяртання кепскіх людзей у розныя рэлігіі, якія прыводзілі ўрэшце чалавека да добрых дзеяў. Але вось пытанне — гэтыя людзі былі кепскімі спачатку, але ці былі яны менавіта злымі?

Возьмем крыху шырэй. Грамадства фармуе злых людзей, ці злыя людзі сеюць нянавісць? Ці адно нароўні ўспамагае другое. Вось яскравы прыклад — асоба Уладзіміра Пуціна. Чаму ён стаў тым, кім стаў? Можа ў дзяцінстве яго крыўдзілі бацькі, можа ў юнацтве ігнаравалі равеснікі, а можа ў ранняй маладосці з яго смяяліся дзяўчаты, адмаўлялі яму? А потым доўгія гады шматлікія прыніжэнні на нялёгкай спецыфічнай службе. Затое зараз самадзержац новай Расеі, якая нібыта ўстае з калень (хто яе толькі так паставіў на гэтыя калені?), можа амаль на гадзіну спазніцца на сустрэчу з папам рымскім Францішкам. Можа ігнараваць усе нормы дыпламатыі і этыкету. Ды што там этыкету, усе нормы маралі і міжнароднага права. І можа лічыць сябе сапраўдным пупом зямлі і выдаваць свае злыя цёмныя дзеі і справы за добрыя. І вось чаму тое, што многім бачыцца як відавочнае і адназначнае зло, многім іншым падаецца пазітыўным і светлым. І як такое масавае ачмурэнне мажлівае ў прынцыпе ў век шырачэзнага інфармацыйнага поля. Здавалася б, пасля культаў асобы Леніна і Сталіна, такое немагчыма ўвогуле. Гэтая загадка відаць палягае ў самой прыродзе чалавека — у складаных варунках шукаць простых формулаў, рашэнняў і развязак. А потым непазбежна кожнага чалавека ўжо вядзе супольна створаная сістэма. Усё зноў па коле, зноў пераслед іншадумцаў, зноў новыя ахвяры, страчаны час для рэфармавання краіны. А для асобы, якая стаіць на чале такой дзяржаўнай сістэмы, два варыянты непазбежнага канца. Аптымістычны канец на гэтым свеце — доўгі скон на падмаскоўнай дачы, які-небудзь маўзалей ці крамлёўская сцяна з наступным абавязковым руйнаваннем гэтага маўзалея ці сцяны. Альбо песімістычна брутальны, як гэта было з Чаўшэску ў Румыніі, Хусейнам у Іраку, Кадафі ў Лібіі. Тое сама будзе і з паўночнакарэйскім, і з узбекскім, і з азербайджанскім, і з іншымі ўладарамі, якія паставілі сябе вышэй грамадства і вышэй Бога. Гэта пакуль фармуецца дэспатычная сістэма „народ і партыя адзіныя”, знітаваныя адной мэтай і ланцугом. Але праходзіць час, клубок гісторыі раскручваецца і ўрэшце ўсё рассыпаецца. А ад ранейшай знітаванасці не застаецца нічога.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Яркая неэфектыўнасць



Беларусь дзіўна часта пераследавалі ўсякія язвы. Звычайна ўвесну. І заўсёды, як бы сказаць, месцамі. А то ў адным рэгіёне паявіцца крыважэрная мошка і высмакча ўсю кроў з паловы калгасных кароў, і што ў іншым рэгіёне вылупяцца ватагі атрутных павукоў, праўда, смяротна кусаючых, але варта падкрэсліць — што аднолькава сумленна і хатніх жывёл, і іх гаспадароў. Калі на адну частку краіны нападаюць забойныя бабры, другую агаляе з бульбы ненажэрны каларадскі жук. Некалькі гадоў таму частку Беларусі жорстка пераследавала чупакабра — экзатычны звер, якому вельмі пасмакавала хатняя птушка, але не грэбавала і парсюкамі з прыхатніх хляўчукоў. Хто выйграў на яе абжорстве, а хто па супадзенні страціў, гэта іншае пытанне. У выпадку беларускіх і на шчасце толькі кропкавых язваў, яны часта з'яўляюцца адзіным апраўданнем пасрэднасці. І ў працы, і ў жыцці. У Польшчы да нядаўняга часу стаўленне да пасрэднасці выказвалася наступным чынам: «Czy się stoi, czy się leży...». Сёння, калі б нават хацеў бы хто паляжаць (хварэючы), ён усё ж стане (на працоўным месцы). Крэдыты на жыллё, на адукацыю, на адпачынак дысцыплінуюць тых, хто даў сябе ў іх заблытаць. А тыя, хто не можа дазволіць сабе крэдытаў — то-бок, вымушаны прыняць «смеццевую» працу — таксама мусяць дзесьці жыць, харчавацца, утрымліваць сям'ю. Аказваецца, што пасрэднасць у Польшчы не змяншаецца. Добра што і столькі, бо ў Беларусі па-ранейшаму яе больш.

У рэйтынгах найбольш запрацаваных нацый палякі займаюць другое месца. Беларусы, магчыма, перадапошнія ў трэцім дзясятку з пяцідзесяці манітарынгаваных па гэтай прыкмеце народаў. Тым не менш, у адсутнасці працавітасці беларусаў нельга абвінаваціць. Толькі што, незалежна ад таго, як бы яны не стараліся, пры ручна кіраванай гаспадарцы краіны іх праца заўсёды будзе абы-якая. Улада, аднак, па-ранейшаму патрабуе ад народа якасці. Але з пустога і Саламон не наліе. Мясцовыя язвы, здаецца, адзіны спосаб апраўдаць беспарадак стратнага калгаса ці дэкапіталізаванага завода. Кіруючымі імі дырэктары павінны клапаціцца аб свае чатыры літары. Апошняя чума, якая лакальна ўразіла Беларусь, можа, аднак, дзівіць. Яна з'явілася ў выглядзе неўтаймавана ненажэрнага вусеня няпарнага шаўкапрада выключна ў сяле Канюхі Мінскай вобласці. Ці можа працаваў там нейкі калгас-банкрот або марнатраўнае надлясніцтва? Спачатку ён агаліў з лісця пладовыя дрэвы, што заняло яму некалькі дзён і пакуль канюхоўскім удалося на грамадскіх пачатках сабрацца для абароны садоў, перакінуўся на парэчкі і іншыя трускалкі. Калі праз тыдзень цалкам іх спляжыў, узяўся за ліпы і дубы. На працягу некалькіх тыдняў так іх абгрыз, што ўсё ператварылася ў нейкія пантамімы пнёў. Некаторыя кажуць, што яны ўяўляюць тое, чаго ніхто не адважваецца сказаць услых, што следствам аб'ектывацыі беларускага грамадства з'яўляецца шырока распаўсюджаная пасіўнасць, адсутнасць ініцыятывы і калектыўны кансерватызм. Такім чынам, гэта нацыянальная трагедыя. Паводле іншых, аднак, гэта пантамімічная камедыйка трохі гогалеўскага тыпу. Гэта толькі нямое папярэджанне для празмерна бюракратызаванай мясцовай улады, якую ў рэшце рэшт нельга абвінаваціць у некампетэнтнасці, а хутчэй толькі ў замаруджванні рашэнняў. А гэта можна лёгка выправіць. Ужо прэзідэнт Лукашэнка рыхтуе на гэта адпаведны ўказ. Толькі што і тыя, і тыя не маюць рацыі да канца. Жыхары Канюхоў прадэманстравалі далёка ідучую грамадзянскую актыўнасць. Яны ўсе разам і кожны паасобку спрабавалі ліквідаваць бедства ўручную. Высветлілася, аднак, што пякучыя валаскі пакрываючыя целы з'едлівага вусеня, пракалваюць нават ахоўныя пальчаткі, выклікаючы балючыя скурныя алергіі. На жаль, мясцовыя або цэнтральныя ўлады не змаглі адэкватна даставіць у тэрмін тоўстых рукавіц. Вядома, вінаватыя чыноўнікі будуць узорна пакараны. Таму непатрэбна жыхары Канюхоў апусцілі рукі. Нічога, што няпарны шаўкапрад з часам ператварыўся ў прыгожага матыля, які пасля калектыўных амураў склаў незлічоныя лікі яек будучых пакаленняў. Бо з выратаваннем пацярпелым кінуўся генеральны дырэктар навукова-практычнага цэнтра Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па біярэсурсах, які заявіў: «Папуляцыі трэба прыбраць альбо хімічным спосабам, альбо механічным». Ну і што, што паспяшаўся запозна. Але затое як ярка!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# „Заслоны” пойдуць у музей?

Два, распісаныя па абодвух баках — паводле мяне — гэтак званыя заднікі (частка дэкарацыі ў выглядзе тэкстыльнага палатна, размаляванага водна-клеевымі фарбамі), якія складалі фон сцэнічнага афармлення і выйшлі з-пад пэндзля Язэпа Драздовіча ў 1933 годзе ў Беластоку, да гэтай пары звычайна называныя „заслонамі”, маглі б трапіць як бязвыплатны дар з беластоцкай сядзібы Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Падляшскі музей. Так 10 чэрвеня дамовіліся старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і дырэктар Музея Анджэй Ляхоўскі. Цяпер адпаведнае рашэнне павінна прыняць Управа Таварыства і выканаць іншыя фармальнасці. Калі ўсё пойдзе гладка, заднікі, на якіх намаляваны пейзажы і выява замка, пасля кансервацыі будуць бясплатна і ўрачыста перададзены ў Падляшскі музей пасля многіх гадоў бескарыснага адлежвання на гарышчы БГКТ (не лічачы аднаразовай прэзентацыі па ініцыятыве гісторыка Алены Глагоўскай — аб чым я пісаў тыдзень таму). Тэрмін перадачы найперш залежыць ад даты пасяджэння Управы БГКТ, і вядома, ад яе рашэння.

— У цяперашні час мы моцна заняты працай у сувязі з падрыхтоўкай да летніх мерапрыемстваў, якія арганізуем, — не хаваў старшыня Сычэўскі.

Нагадаю, аб чым я ўжо ўспамінаў на мінулым тыдні, што Язэп Драздовіч (1888-1954) быў пісьменнікам, філосафам, этнографам, фалькларыстам, археолагам і аматарам астраноміі, але і ў першую чаргу жывапісцам, графікам і скульптарам. У гісторыю мастацтва ўвайшлі ягоныя пейзажы беларускай прыроды і графікі тамашніх замкаў. Як адзін з нешматлікіх мастакоў першай паловы XX стагоддзя чэрпаў ён ідэі з роднай гісторыі і выкарыстоўваў багацце народнай культуры. У Беластоку ён прабываў на працягу года па запрашэнні гуртка Таварыства беларускай школы. Пакуль нерассакрэчана (прынамсі для мяне), што адбывалася з заднікамі пасля роспуску ТБШ, падчас вайны і адразу пасля яе, і як і калі яны трапілі ў БГКТ.

Тыдзень таму ў мяне былі сумненні колькі „заслон” гэтага вялікага беларускага мастака першай паловы XX стагоддзя знаходзіцца ў Таварыстве. Нарэшце, пры нагодзе сустрэчы старшыні Сычэўскага з дырэктарам Ляхоўскім, у якой і я ўдзельнічаў, аказалася, што ў адпаведнасці з тым, што ў 1998 годзе пісаў у «Беларускім календары» памерлы нядаўна былы сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк, і пацвердзіла ў размове са мной Алена Глагоўская, іх дзве. У ходзе сустрэчы са старшынёй Сычэўскім у сядзібе Таварыства, дырэктар Падляшскага музея меў магчымасць трохі прыгледзецца працам Драздовіча. Ён лічыць, што яны ў неблагім стане, але, безумоўна, маюць патрэбу ў аднаўленні (дэфекты фарбы, дзірка), а раней у дбайнай ачыстцы спецыялістамі. Абодва кіраўнікі пагадзіліся, што дзякуючы функцыянаванню твораў у адкрытай, публічнай, музейнай, самаўрадавай прасторы (з забеспячэннем спецыялістычнай аховы) будуць яны лепш служыць прасоўванню беларускай культуры ў Беластоку, як трывалы і шматвяковы супольны элемент супольнай падляшскай культуры ў многіх яе аспектах, уключаючы асабліва менш вядомы — тэатр міжваеннага перыяду. Паказ заднікаў пасля абнаўлення (арыенціровачна запланаваны ў галоўнай сядзібе Падляшскага музея ў Ратушы з нагоды Міжнароднага дня тэатра 27 сакавіка наступнага года) можа таксама стаць вялікім укладам у рэалізацыю праекта, сярод іншага, самога Язэпа Драздовіча, і якраз даваеннага беларускага тэатра ў Беластоку.

Пры нагодзе сустрэчы са старшынёй Сычэўскім дырэктар Ляхоўскі распавёў пра супрацоўніцтва яго ўстановы з аналагічнымі ўстановамі ў Беларусі. У бліжэйшыя некалькі месяцаў яны шырокамаштабныя. Напрыклад, плануецца паказаць польскі жывапіс з калекцыі Падляшскага музея ў Нацыянальным музеі ў Мінску, затым у Гомелі і Віцебску. У Гістарычным музеі ў беларускай сталіцы можна будзе ўбачыць унікальныя фатаграфіі беластоцкіх фатографаў дваццатага стагоддзя Баляслава Аўгусціса і канца дзевятнаццатага і пачатку дваццатага стагоддзя Юзафа Салавейчыка. У Гродне мае адкрыцца выстава аб археолагу і нумізматыку першай паловы XX стагоддзя Юзафе Ядкоўскім, звязаным з Гроднам і Беластокам, а ў брэсцкім Драматычным тэатры будуць паказаны сцэнаграфіі Анджэя Струмілы. У сваю чаргу ў Беластоку будуць шанцы пабачыць працы з музея дызайну пры знакамітым шкляным заводзе «Нёман» у падлідскай Бярозаўцы. Анджэй Ляхоўскі не выключае, што заднікі Язэпа Драздовіча пасля аднаўлення будуць паказаны ў Беларусі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У днях з 27 па 30 мая Філалагічнае аддзяленне Беластоцкага ўніверсітэта зладзіла навуковую канферэнцыю пад лозунгам „Рэгіён і трансгранічныя тоеснасці”. Было зачытана шмат дакладаў, якія краналі розныя трансгранічныя прасторы. Прычым граніца не абазначала тут граніцы тапаграфічнай, але граніцу ў больш агульным сэнсе, у тым ліку і мяжу паміж рэальнымі і ўяўнымі духовымі космасамі. Прынялі ўдзел у канферэнцыі вучоныя з універсітэцкіх асяродкаў з усходу і захаду Польшчы ды з замежжа.**

Region i tożsamości transgraniczne

Białystok · Sejny · Krasnogruda
27–30 maja 2015 r.

Uniwersytet w Białymstoku Wydział Filologiczny
Zespół Badań Regionalnych
Komitet Nauk o Literaturze Polskiej Akademii Nauk
Fundacja Pogranicze w Sejnach
Międzynarodowe Centrum Dialogu Krasnogruda






# Памежныя тоеснасці

Мяне, чыста вонкавага назіральніка, найбольш зацікавіў даклад беластоцкай прафесар Дануты Завадзкай пра мясцовую тутэйшасць і яе выяўленне ў літаратуры. Спрабую тут накідкам перадаць змест ейнага выступлення, засцерагаючыся загадзя, што спрашчэнне зместу абавязкова абазначае нейкае яго скажэнне, за што адразу і каюся...

Тутэйшасць гэта спадчына па ВКЛ, дзе ў XIX стагоддзі прайшлі нацыятворчыя працэсы і пазнейшыя перамяшчэнні граніц ды праяўляецца ў відзе ідэнтыфікацыі, якая не месціцца ў нацыянальных класіфікацыях. Адсюль тутэйшасць. Тутэйшая тоеснасць найбольш праявілася ў перапісе насельніцтва 1931 года, які на Палессі паказаў каля сямісоттысячную групу міжваенных грамадзян, акрэсліваючых сябе тутэйшымі. Малгажата Шэйнерт, згадваючы пра закладку Пінскага флоту, так пісала пра палешукоў: „Палешукі, насельніцтва наваколля Пінска неакрэсленай нацыянальнасці, галоўным чынам праваслаўныя і тутэйшыя, лічаць іх беларусамі і не могуць яны служыць на навакольных водах, якія не маюць перад імі тайнаў, у тым флоце, які даў бы ім занятак, таму, што не маюць акрэсленай тоеснасці”. Тутэйшых трактавалі ў міжваенным дзесяцігоддзі як спецыфічную меншасць, павіслую паміж польскай, беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцямі. Гэта спараджала трыальтэрнатыўную асіміляцыю. У рэаліях ІІ РП, якая намагалася адбудаваць польскасць, пасля гадоў палітычнага нябыту, абазначала гэта прыгавор на паланізацыю. Аднак выпадала тады і спроба ўстанаўлення беларускай дзяржаўнасці ды змацавання ўкраінскага нацыятворнага працэсу. У залежнасці ад гістарычнага моманту, гаварылася ў міжваенным дваццацігоддзі пра паланізацыю, беларусізацыю або ўкраінізацыю мясцовых тутэйшых. Некаторыя міжваенныя публіцысты, напрыклад Ежы Незбжыцкі, лічылі іх, палешукоў, неадукаваным насельніцтвам, здэмаралізаваным шматгадовым адміністрацыйным хаосам, войнамі і рэпрэсіямі. Тамашні мужык, пазбаўлены духовых арыенціраў, меў явіцца мяккім матэрыялам для ўсялякіх фармавальных дзеянняў. Гэты аморфны, бясксшалтны твор трэба было ўчыніць сфармаваным суб'ектам; напрыклад, у выніку дзеянняў польскіх улад. У той час гэтую аморфнасць з беларускай перспектывы паказаў Янка Купала ў трагікамедыі „Тутэйшыя”. Там мова акурат не пра палешукоў, бо дзеянне адбываецца ў мінскіх рэаліях 1920 года. Купала стварае іранічную фігуру беларускага лёсу. Яго істотай аказваецца безыдэйнасць, замена беларускай тоеснасці тутэйшай, паколькі апошняя дазваляе лягчэй прыстасавацца да няспынных змен, наводжаных акупантамі гэтай зямлі: палякамі, бальшавікамі, немцамі. Такая падпарадкаванасць тутэйшых схіляе да разгляду гэтага феномена ў катэгорыях посткаланіяльнай рэальнасці, што асабліва ўсплыло ў 1980-х гадах запар з распадам Савецкага Саюза; так на Падляшшы, як і на Беларусі, бо гэты тэрмін мае трансгранічны абсяг. Наяўнасць тутэйшасці па абодвух баках граніцы прыдае ёй высокі ранг у беларускім духовым мейнстрыме, у тым ліку і ў літаратуры пражываючых у РП беларусаў. У культуры Падляшша гэтая тэма стала важнай тэмай мясцовай літаратуры ды істотнай моўнай праблемай падляшскіх творцаў. Падкрэслівае гэта звычка называння тутэйшай мовы мовай падляшскай. Тутэйшая мова паяўляецца найчасцей на старонках мясцовай меншаснай беларускай літаратуры. Але не толькі; у апошні час займаюцца яе рэканструкцыяй і польскамоўныя творцы, як Кшыштаф Гедрайць ці Ігнат Карповіч. Гэтая моўная ўспышка тутэйшасці дазваляе выявіцца гэтай катэгорыі ў 1980-х і пазнейшых гадах. У меншаснай літаратуры тутэйшасць складвае жалезны міф беларускай літаратуры, які пастаянна вяртаецца і выконвае дыягнастычную функцыю ў дыскусіі падляшскіх беларусаў. Вяртаецца як мера нацыянальнай ідэі, яе стану і кандыцыі сярод беларусаў і выклікае немалыя эмоцыі. Шчыльную повязь тутэйшасці са складанымі праблемамі беларусаў тлумачыць Алена Дуць-Файфер з Ягелонскага ўніверсітэта, аўтарка кнігі пра беларускую, украінскую і лэмкаўскую літаратуры ў Польшчы. Лічыць яна, што ў ліку меншасных літаратур у Польшчы найбольш літаратурных ініцыятыў і найбольшы даробак мае несумненна сучасная беларуская літаратура. Аднак аўтарка заўважае ў яе нястойкасць мовы, якая прадвызначае падляшскіх творцаў, ствараючы вельмі хісткую сітуацыю. Гэтак жа як тоеснасць, мова таксама называлася тутэйшай і афіцыйныя класіфікацыі яшчэ не зафіксавалі на Падляшшы афіцыйнай літаратурнай мовы, а гэта паставіла пішучых перад дылемамі: або творчасці на мове сваёй вёскі або наваколля, па-ўкраінску ці па-беларуску. Тутэйшая мова часта разглядаецца як тыповы памежны мікс беларускіх, украінскіх і польскіх гаворак. З іншага боку Сакрат Яновіч сцвярджаў, што лёс Беларусі ўсё ўстрагаў у нацыянальнай недасвядомленасці, над лёсам беларускай дзяржавы павісла тая праклятая тутэйшасць, геніяльна ўлоўленая Купалам у яго аднайменнай драме. Тутэйшасць атрымлівае ў Яновіча адмоўную ацэнку, як несвядомасць; тутэйшыя, паводле Яновіча, не хочуць ведаць, кім яны з'яўляюцца і такім чынам запавольваюць ход нацыятворчага працэсу. Як прыгадвае Яновіч, у Крынках не было ў нікога патрэбы называць сябе беларусамі — усе размаўлялі на той самай мове — тутэйшай. Кім ён з'яўляецца — даведаўся ў тым польскамоўным вялікім горадзе Беластоку. Усведамленне каланіяльнай залежнасці выклікае ў Яновіча супрацію і вызваляе імпульс для нацыяўсведамляльнай дзейнасці пісьменніка. Гэта вядзе яго да нацыянальнага пурызму, імкнення да чыстай беларускасці, якое падаецца люстэркавай рэакцыяй на эсенцыйнасць польскага атачэння. Індывідуальная і калектыўная тоеснасць беларусаў будуецца на перайманні, мімікрыі тоеснасці з заходняга напрамку, пачынаючы з Гердэравага лозунга: „Адзін народ — адна мова”, які надта мацуецца ў Польшчы. Гэта прычынілася і да душэння моўнага багацця ВКЛ. Яновіч называе тутэйшасць „праклятай”, знітаванай з беларускім лёсам. Праблему тутэйшасці Яновіч заўважае ўжо ў Элізы Ажэшка, якая прыхільна ставілася да гэтай з'явы, заўважаючы ў тутэйшых шмат дабрыні; у гэтым плане і Яновіч згодны з Ажэшкай. Больш агульна, аднак, тутэйшых Яновіч называе праваслаўнымі палякамі, якія ў яго з'яўляюцца няпоўнавартаснымі палякамі, штучнымі творамі асіміляцыі, забаўленыя „лустай хлеба”. Шмат людзей свядома абрала тутэйшасць, адкідаючы нацыянальнае выражэнне ідэнтыфікацыі. У Тамары Болдак-Яноўскай тутэйшасць абазначае абарыгеннасць і мае адмоўную афарбоўку — гэта нешта між жывёлай і раслінай. Тутэйшасць гэта спыненне на абы-чым. Варта яшчэ дадаць, што тутэйшасць была своеасаблівай шырмай перад уладай, за якою людзі хавалі сваю нацыянальнасць, бо ўлада ставілася насцярожана да нацыянальнасці, затое талеравала рэгіянальнасць. Рэгіянальнай ідэнтыфікацыяй, якая існуе побач нацыянальнай, з'яўляецца падляшская тоеснасць. Найвыдатнейшым прапагандыстам падляшскасці з'яўляецца Ян Максімюк, аўтар падляшскага буквара, прапануючы запіс тутэйшай мовы лацінкай. Аднак, заўважыла дакладчыца, прыхільнікаў гэтай ідэі нямнога. Ян Максімюк лічыць сваю ініцыятыву неабходнай, бо паводле яго беларуская мова на Падляшшы мёртвая, а гэта спрыяе паланізацыі.

Важным кампанентам тоеснасці з'яўляецца месца, у якім чалавек рос і фармаваўся, бо тое месца вызначае яго пазнейшую духовую канструкцыю — пра гэта расказала Анна Саковіч, таксама з Беластоцкага ўніверсітэта. Такім месцам для Аляксея Карпюка было Страшава. Аўтарка спаслалася таксама на станаўленне тоеснасці і ў Сакрата Яновіча, і ў Міхала Андрасюка, і ў Лявона Тарасэвіча.

Цікавым мне паказаўся таксама даклад Войцеха Броварнага з Вроцлаўскага ўніверсітэта, які расказаў пра Усходнія Лужыцы. Менавіта там да высялення пасля Другой сусветнай вайны пражывалі карэнныя жыхары той зямлі — лужычане, ці, як іх інакш называюць лужыцкія сербы. У выніку іх высялення асталася матэрыяльная спадчына, якую толькі цяпер намагаюцца адрадзіць жыхары апынуўшыхся ў Польшчы Усходніх Лужыцаў з цэнтрам у Жарах і Жагані. Лужыцы займалі прастору між сярэднімі цячэннямі Лабы і Одры; у заходняй іх частцы культурная дзейнасць лужычан была засяроджана ў Баўцэн і Котбус. Важнай цікавінкай, сказанай дакладчыкам, была ціхая дамоўленасць паміж урадамі ПНР і ГДР пра замоўчванне Польшчай праблематыкі лужычан і Лужыцаў — яна была адной з умоў падпісання Згажэлецкага трактата з 1950 года пра ўсталяванне граніцы на Одры і Нысе.

Не ўсе выступленні ўдалося мне паслухаць, ды не вельмі гэтага шкадую, бо некаторыя — так мне здалося — не надта кранали загаловачную памежную тоеснасць, абмяжоўваючыся толькі да таго, што аўтарам было пад сілу, напрыклад даклад пра літаратурную карту Падляшша ў галіне дзіцячай творчасці быў надта падобны на тыя нядаўнія мапы, якія паказвалі адно дагранічную тэрыторыю, а за граніцай — вялікую белую пляму; тут „трансгранічнасць” не сягала за задворкі польскай мовы... Усё ж такі такая канферэнцыя пакідае ў слухача цікавасць і да пазнейшага глыбейшага знаёмства з рознымі межамі. У выніку адкрыў я афарызм ураджэнца Латвіі Макса Вайнрайха: „Мова, гэта дыялект, падтрыманы арміяй і флотам”; так становіцца цэнтр, а пасля вызначаюцца граніцы, а пасля пурыстычныя палітычныя групоўкі праводзяць у жыццё лозунг Гердэра...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Апошнія ў гэтым сезоне спектаклі «Сонькі»

Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі мае гонар запрасіць Вас на апошнія ў гэтым сезоне спектаклі «Сонькі» паводле рамана Ігната Карповіча. Гэта аповесць з польска-беларускага памежжа. Рэжысура: Агнешка Карыткоўская-Мазур. У галоўных ролях: Святлана Анікей (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску) і Катажына Сергей (Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі). У ролі Мішы — Алесь Малчанаў (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску). Жывая музыка: Ігар Забелаў.

Спектаклі: 26 чэрвеня (гадз. 19) і 27 чэрвеня (гадз. 17).

## Еўрапейскі тыдзень спорту

У днях 26.05 - 1.06. 2015 г. адзначаўся VII Еўрапейскі тыдзень спорту для ўсіх, у рамках якога арганізаваўся XII Спартыўны турнір гарадоў і гмін і ў якім удзельнічала Пачатковая школа ў Чаромсе. З гэтай нагоды на стадыёне «Орлік» ладзіліся шматлікія спартыўныя гульні. 29 траўня, напрыклад, праходзіў фінал «сятканогі» хлопцаў. Заяўкі падалі тры каманды (удзельнікі самі дабраліся па двух). У выніку спаборніцтва перамаглі Крыстыян Маеўскі і Эрык Тычына — гімназісты, на ІІ месцы апынуліся Матэвуш Семянюк — вучань пачатковай школы і Марыюш Іванюк з сярэдняй школы, а на ІІІ месцы — Патрык Жалоба і Адрыян Унучка з гімназіі. Удзельнікаў Гмінная ўправа абдорыла марожаным.

30 траўня ў абедні час адзінаццаць удзельнікаў прэзентавалі «дэскаролькі» і «вэйбарды», а ў 15 гадзін пачаўся футбольны турнір Пачатковай школы. Правілы турніру прадбачвалі падборку ўдзельнікаў паводле наступнага прынцыпу: вучні І-ІІІ класаў вызначаюць 2 спаборнікаў, IV-V — па 2 спаборнікаў, а VI — па адным спаборніку. Заяву аб удзельніцтве прад'явілі чатыры каманды: «Młode Wilki», «Real Czeremcha», «Szybsi i Wściekli», «Młode Pokolenie 2». Да першай узроставай групы хлопцаў далучылася вучаніца ІІІ класа Кася Зіневіч, а да чацвёртай групы — Паўліна Пачуска з VI класа. Футбольны турнір, як зрэшты ўсе спартыўныя гульні, праходзілі пры вялікім зацікаўленні бацькоў. Разыграны былі шэсць матчаў. Кожная каманда іграла з кожнай. Змаганні былі заўзятыя. Асаблівай увагі заслужылі дзяўчынкі, прычым Кася Зіневіч забіла два галы для каманды «Szybsi i Wściekli», а Паўліна Пачуска забіла столькі ж галоў для каманды «Młode Pokolenie 2». У канчатковым выніку каманды занялі наступныя месцы: першае — «Młode Wilki», другое — «Szybsi i Wściekli», трэцяе — «Real Czeremcha», чацвёртае — «Młode Pokolenie 2».

У знак прызнання ўсе каманды, якія ўдзельнічалі ў турніры, атрымалі памятныя статуэткі з выявай футбаліста, а ў прыдачу Гмінная ўправа абдорыла марожаным. Спаборніцтва праходзіла пад наглядам аніматара «Орліка» настаўніцы фізкультуры Ірэны Пашкоўскай.

(ус)



# Цярністы шлях Юліі Салівонік

Сведкаў тых падзей даўно ўжо няма ў жывых. Гэта былі нашы дзяды і прадзеды, народжаныя ў дзевятнаццатым і пачатку дваццатага стагоддзя. Дзе-нідзе засталіся яшчэ прадметы, з якімі вярнуліся назад пасля многагадовага бадзяння па свеце: царкоўныя кнігі, здымкі, а нават коўдра. Сёння свайго канца дажываюць дзеткі прымушаных роўна сто гадоў таму пакінуць свае хаты і выязджаць у далёкія губерні Расейскай імперыі. Такім дзіцём з'яўляецца Зіна Вішэйка родам з Мастаўлян.

Убачыўшы мяне, дачка спадарыні Зіны адрываецца ад гразкага агарода і вядзе мяне ў прыгожую хату, якая стаіць непадалёк школы ў Крынках. Сама вяртаецца да гнеючых ад празмернай сырасці агуркоў.

Вельмі прыгожая і вясёлая як на свае больш за восемдзесят гадоў Зіна Вішэйка ветліва запрашае садзіцца за стол, абувае мяне ў новенькія шлёпанцы і пачынае свае расказы.

— Мабыць саграшу перад Богам тым, што цяпер скажу, але мне балюча, што яшчэ хаджу па гэтай зямлі, займаю найвялікшы пакой у хаце, а яны там усе на адной кучы ціснуцца.

Узрушаная яе вялікай любоўю да сваіх дзетак, унукаў і праўнукаў, усё-такі прабую вярнуцца да асноўнай тэмы нашага спаткання.

Слова «бежанства» выклікае ў яе яшчэ някепскай памяці дзве асобныя, але аднолькава важныя, гісторыі. Пачынаем з гэтай, якую распавяла ёй маці Юлія.

Юлія з дому Салівонік нарадзілася ў 1900 годзе ў вёсцы Бурстаўшчына па другім баку Свіслачы, якая плыве за мастаўлянскімі агародамі. Зіна, пакуль не закрылі граніцы, часта туды бегала. Гэта ж недалёка. Дастаткова было перайсці вялікі, драўляны мост, які знаходзіўся побач драўлянага млына направа ад мастаўлянскай царквы. Пра Бурстаўшчыну распавядае коратка і без залішняга захаплення: распалажаная ў даліне над ракой, побач адны горы і пяскі.

— Чаму сям'я вашай мамы падалася ў бежанства?

— Мабыць, нешта ім пагражала, — няўпэўнена адказвае жанчына.

Юлія Салівонік пакідала родную вёску 15-гадовай дзяўчынай. Была найстарэйшай у ліку чацвярых дзяцей. Андрэй, Антаніна і найменшы Іван разам з бацькамі Васілём і Параскевай апошні раз паглядзелі на родную хату і, сеўшы на драўляную фурманку, паехалі куды вочы панясуць.

— Мама, распавядаючы пра бежанства, заўсёды плакала. Недзе каля Баранавіч, па дарозе да чыгуначнай станцыі ў Слоніме, бацькі цяжка захварэлі. Тады якраз запанавала халера. Не было чаго есці ні піць. Мінаючы дзе-якую лужынку, хворая Параска прасіла: «Юлянька, дзетанька, набяры вады кубачак». Неўзабаве хворых забралі ў шпіталь. Юля і старэйшы сын Андрэй цярпліва чакалі бацькоў пад дзвярамі шпіталя. Каб іх пабачыць, чапляліся на шпітальныя вокны. У сярэдзіну нікто не ўпускаў. Нарэшце нейкая медсястра сказала ім: «Вашай мамы і папы тут ужо няма, яны цяпер знаходзяцца ў лепшым шпіталі. Калі што, мы вам паведамім».

Але не паведамілі. Па сёння Зіна не ведае, дзе знаходзяцца магілы дзядоў Параскевы і Васіля Салівонікаў з Бурстаўшчыны.

А тады бедная Юля зусім разгубілася. Не ведала, ці чакаць ёй бацькоў ці ехаць далей. Не ведала куды ім ехаць і з кім. У далейшую дарогу забралі іх суседзі з Бурстаўшчыны. Абавязкі фурмана пераняў на сябе Андрэй. Так дабраліся да Слоніма. Там пагрузілі іх у чыгуначныя вагоны. Вазы з конямі і ўсё, што на іх было, засталося на вакзале. Сказалі ім: «З вамі разлічацца гэтыя, якія возьмуць вас на жыцельства».

Жыццё паказала, што было гэта толькі пустое абяцанне. Юлю, Андрэя, Антаніну і Івана размясцілі ў розных пасёлках, назваў якіх мая субяседніца не ведае. Усё-такі сустракаліся яны на спецыяльна вызначаных ім спатканнях. Атрымалі прапіску, пайшлі ў школу. У сяле, у якім запынілася Юлія, была царква і некалькі крамаў. Жылося ёй там надта добра.

— Гаспадары займаліся нейкай прадукцыяй, на жаль, не магу сказаць канкрэтна якой, — успамінае Зіна. — Жылі ў дастатку, але працавалі шмат. Надта былі яны набожныя. Кожную нядзельку, кожны найменшы прысвяткак праводзілі ў царкве. Ішлі туды нічога не еўшы. Так потым рабіла мая мама і я цэлае жыццё так раблю. Вярнуўшыся з царквы, спажывалі абед і вярталіся да свайго занятку. Адпачывалі толькі на гадавыя святы. Мама рабіла з імі ўсё. За гэта палюбілі яе як родную дачку. Хазяйка называла яе Ульяначкай, прасіла застацца. Маме надта спадабалася гэтая прапанова, баялася вяртання, але не магла пакінуць малодшых братоў і сястру. Цэлая чацвёрка з'ехала ў Бурстаўшчыну ў 1920 годзе. Не было ні хаты, ні хлява. Пасяліліся ў склепе. Мама, як найстарэйшая пасярод цэлай чацвёркі, была адказнай за ўсё. Малодшыя дапамагалі як маглі. Калі жала сярпом, адбіралі адразоркі. Нават маленькаю, парастаючую пагоркі грэчку рукамі рвалі.

Адзінай памяткай, прывезенай з бежанства, якая потым стала Юльчыным вясельным пасагам, была мяккая, доўгая і шырокая, абшытая сінім атласам коўдра, такія ж дзве падушкі і яксная, белая, упрыгожаная карункамі пасцель.

Неўзабаве знайшоўся і кавалер. У сваты, па-тутэйшаму званымі запоем, да беднай сіраты прыехаў прыгожы кравец з суседніх Мастаўлян, на пяць гадоў ад яе старэйшы Філіп Буднік. Суседзі, як толькі яго прыбачылі, зараз прыбеглі пад акно Юльчынай хаты і пачалі ўгаварваць: «Пакінь яе, тут бяда. А вось па другой старане Залатары жывуць, бяры лепш Залатарову Аўдоццю».

Не паслухаўся суседзяў, так як раней у бежанстве ў каўказскім Сочы не паслухаўся прыгожых казачак. Дзяўчыны самі прыходзілі пад акно, каб паклікаць прыгажуна. Мама Юсціна надта пільнавала Філіпа. Моцна яго любіла, хацела, каб вярнуўся з ёю ў родныя Мастаўляны. А казачкам удалося схапіць і затрымаць назаўсёды ягоных братоў Сідара і Андрэя.

— Бацьку пра бежанства гаварыць не было калі. Ён заўсёды шыў, а яшчэ па двух вучняў на раз браў.

Вядома, што ў Сочы паехалі цэлай, вялікай сям'ёй, разам з начытаным святымі кніжкамі бацькам Віктарам, мамай Юсцінай, братамі Андрэем, Сідарам і Сяргеем ды сёстрамі Агатай і Антанінай. Філіпу было тады дваццаць гадоў. Здабыў там добры фах і добрую швейную машыну, з якой вярнуўся ў роднае сяло. Жылося ім там як у раі. Прапаў ужо здымак, на якім дзядзя Сідар ляжыць пад вінаградам у капелюшы і доўгім чорным плашчы.

— Вельмі добры чалавек быў, — успамінае свайго бацьку Зіна. — Ніколі не піў, не курыў. Памёр ён на сямідзясятым годзе жыцця. Да апошніх дзён ніводнага сівога валасочка на галаве не меў, ніводнага чужога зуба. Сваіх дзяцей выхаваў правільна.

А мне ўжо вядома адкуль у спадарыні Зіны столькі любові да дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## ВЕРШЫ Галіны ШУЛЬСКАЙ-ПЕХ

### Я — з Лукі Не толькі я!

*Я — з Лукі.*
*Там нарадзілася.*
*Там боса бегала,*
*Там боса хадзіла я.*

*На старым ровары*
*дзедкі Яна ехала.*
*Трохі ездзіць не ўмела.*

*У агародчыках маіх бабуль*
*кветкі,*
*шоўкавая трава*
*і дзікія ружы.*

*Ці жыццё з шыпамі*
*мне наканавана?*
*Ці каханы,*
*з тысячы выбраны?*

*Пакахала сэрца і душу.*
*Ці пра гэта гаварыць я мушу?*

### Багацце

*Багацце малой Айчыны...*
*Не так далёка адсюль.*
*Вёска Лука.*
*У думках яе дамоў шукаю.*

*Шукаю жыцця,*
*якое 51 год трывала.*
*Гэта шмат часу.*
*Гэта часу нямала.*

*Раскідзістыя дрэвы выраслі,*
*Свет замалы.*

*Прыгожыя мары засталіся.*
*Застаўся пагляд*
*на гэтае маё сяло.*
*Засталіся ўспаміны.*
*І ці мне весяло?*

### Назаўжды

*Назаўжды, на бліжэй,*
*дзесь недалёка*
*ёсць мой дом*
*што стаіць над рэчкай.*

*Блізенька, бліжэй.*
*Ці я з гэтай хваробы*
*як кот выліжуся!*

*Ці пакіне мяне хвароба?*
*Ці пакіне мяне жаль?*
*Прашу дапамогі.*
*Так далёка ёсць тая даль.*

### Дзікая ружа

*У бабіным агародчыку*
*дзікая ружа расла.*
*Расла, расла,*
*так як і я.*
*Так як і я.*

*Гародчык прыгожы,*
*кветачак многа.*
*Гэта ішла, ішла я,*
*дзіцятка нябогае.*

*Гэта я ішла,*
*такая нешчаслівая.*
*Цяпер успамінаю*
*у бабы жніва я.*

*Радзюжкі я выкідала,*
*бо труны на іх стаялі.*
*Каб усё гэта сказаць,*
*усяго веку мала.*

Разам з бабуляй Кацярынай у бежанстве

# За зоркай надзеі

Піша прафесару Лешку Вэрэсу, вядомаму польскаму астралагу, сацыёлагу, пісьменніку, па адукацыі юрысту, саставаральніку сучаснай польскай астралогіі, свайму выкладчыку з вышэйшай школы астрапсіхалогіі, якую кончыла Барбара Гаральчук у Лодзі: «Вы заразілі мяне таямніцай сусвету. Лодзь, школа і не толькі. Жадаю Вам здароўя і поспехаў сярод людзей цікавых свету — як я. Бася».

Зорка надзеі вяла яе па свеце, які і родных яе людзей, каб вярнуцца ў сваё гняздо. У Мокрым чакае дом, у які яна вернецца, каб пісаць. Вядуць да яго складаныя дарогі і бездарожжа. Сустракаемся на днях славянскага пісьменства ў старажытным маёвым Бельску. Барбара Гаральчук нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Мокрае непадалёк Бельска. Вучылася ў Бельскім белліцэі. Штудзіравала рускую філалогію ў Любліне, жыла ў Лодзі, Дзюсельдорфе. Як заўсёды з любоўю вярталася на роднае Падляшша. У родным доме жыла з бацькамі і бабуляй, і гэта яна прышчапіла ёй зацікаўленне гісторыяй свайго рэгіёна. Расказвала пра войны, пра бежанства, пра звычаі свае і напатканых людзей, страх і голад, тугу па доме і роднай старонцы.

— На падставе расказаў і ўспамінаў маёй бабулі Кацярыны, якая ў бежанства паехала ў свае 13 гадоў, узнікла мая кніга «Nadzieja aż po horyzont», — трымае ў руках тоўстую, прыгожа афармленую кнігу дэбютантка Барбара Гаральчук. Гэта яе першая выдадзеная кніга. А пісала і раней, яшчэ ў ліцэі. Вершы. Пачынаю:

«Чалавечыя лёсы мяняюцца раптам, як веснавое надвор'е. Раз ідзе нармальна, спакойна, ранняе сонца прадказвае добры настрой, а людзі ўстаюць, бяруць на свае плечы свае штодзённыя абавязкі і пхаюць дзень да канца, каб ночку адпачыць пасля высілку. Вясна заўсёды нясе радасць і надзею на добры год, а бывае і капрызнай. Лета дае цяпло, пах збожжа ў полі, спеў птушак ад самога світання, але і так многа работы, аж млеюць рукі. Восень гэта дар Божы — дастатак і здзяйсненне, а зіма спакушае цёплай печчу, пахам дыму што ляціць з коміна, спакоем. І кожны ведае, што так было, ёсць і застанецца на векі. Ведаюць людзі, што так час плыве, ведаюць і жывёлы натуральны рытм жыцця. Што толькі не стане, нават хваробы і смерць, гэта толькі частка штодзённасці, гэта нічога, што магло б змяніць каляю свету. Але што зрабіць, калі гэты свет перастае быць вядомым, калі ў адзін момант змяняецца ў кашмар? Жыхары вёскі Мокрае Гродзенскай губерні вярталіся ў царкву ў нядзельны поўдзень. Быў канец ліпеня 1915 года. Цёплы, летні дзень, якіх можна спадзявацца ў гэтую пару года. Людзі ехалі на фурах, сабраныя сем'ямі, падвозілі таксама суседзяў. Вярталіся з царквы, дзе бацюшка паведаміў парафіянам аб рашэннях. Ад года цягнулася вялікая вайна. Рэха гэтых падзей даходзіла да вушэй жыхароў, хаця гэта былі імглістыя і няясныя аповеды аб рухах войска далёка ад іхняй губерні. Расійская імперыя вяла вайну з Аўстра-Венгрыяй і Германіяй...».

— Мая бабуля Кацярына Гуральчук, у дзявоцтве Філіпюк, народжаная 12 лістапада 1902 года ў вёсцы Мокрае Бельскай гміны, паехала разам з сям'ёй — бацькам Антонам Філіпюком, мамай Марыяй Філіпюк і братам Раманам. Сям'я рушыла разам з іншымі сем'ямі ў палове жніўня 1915 года. У вёсцы засталося толькі некалькі старэнькіх людзей. Калі даехалі да ваколіц Кобрына, сталі ліць дажджы. Людзі ехалі на вазах з коннай запрэжкай. На кожным возе было шмат дзяцей. Многа людзей памірала, перш за ўсё ад стомы і розных хвароб. Не было куды схавацца ад дажджу, а гразь сягала да кален. Бабуліна сям'я спынілася на ноч у нейкім узлеску, пакладзіся спаць на грудку, каб вада не падыходзіла. Каню размакалі капыты. Дзедка паставіў каня на сухім месцы і сам лёг паміж дрэўцамі. Калі раніцай спыніўся дождж і паяснела неба, аказалася, што спыніліся яны на малым могільніку і спалі на магілках... У Кобрыне ўспыхнула эпідэмія тыфу. Дзедка хацеў вяртацца дахаты, але захварэў і памёр. Пахавалі яго ў брацкай пршпітальнай магіле, ніхто не ведае дзе дакладна. Сям'я паехала далей без галавы сям'і... У Казань прыбыла на пераломе 1915 і 1916 гадоў і была ў гэтым горадзе досыць доўга. Атрымалі закватараванне і Каця пайшла ў школу. Раман працаваў на цяслярскім заводзе і быў задаволены гэтым заняткам... У Казані жылі татары. Бежанцы казалі аб іх, што ездзяць на сабаках: іхнія конікі былі нізкія, калі вышэйшы мужчына сядаў на такога каня, нагамі амаль валок па зямлі. Каця прывезла адтуль такі праклён: «А каб ты на паль скочыў!..». Потым было падарожжа праз Урал. Калі выязджалі з Казані ў Екацерынбург, загрузілі іх у таварны вагон, як заўсёды. У вагонах было многа людзей. Спачатку наракалі, а потым цешыліся сціскам, бо зрабілася вельмі холадна. На сценах вагона асядала шэрань, якая пасля змянялася ў лёд. У вагонах сталі малыя жалезныя печкі, у якіх падарожнікі стараліся ўвесь час паліць, але і так было жахліва холадна... Каця захаплялася горнымі краявідамі. Глыбокія даліны над якімі былі пракладзены пуці, тунелі, доўгія, цесныя і цёмныя, высокія вяршыні гор, заснежаныя лясы. Успамінала стромкія дрэвы, парастаючыя схілы гор, такія высокія, якіх ніхто з бежанцаў ніколі не бачыў... Успамін з ваколіц Чалябінска: жылі там людзі, якіх называлі кітайцамі, невысокія, касавокія. Іхнія жанчыны насілі каляровае адзенне да зямлі. Маладыя мелі закутаныя ногі — ступакі ўсаджаныя ў дыбкі, закручаныя бінтамі, а зверху аздобныя анучкі. Іхнія старэйшыя жанчыны кульгалі, праз тыя дэфармаваныя ногі. Калісь Каця зліталася над шасцігадовай дзяўчынкай, якая плакала ад болю, і хацела зняць тыя анучкі. Яе маці падняла спадніцу і даказвала, што яна з такімі вялікімі нагамі, як у мужчыны, не выйдзе замуж: іх дзяўчынкі ходзяць далікатным дробным крокам, таму мужчыны кахаюць іх. Жанчыны зусім не зразумелі адна адну, хаця кожная хацела як найлепш... З ваколіц Астрахані: у горад прыязджалі купцы, апранутыя ў доўгія ўсходнія апранахі, у турбанах на галаве. І мелі з сабою вярблюдаў, двухгорбых — бактрыянаў... З ваколіц Растова... Сям'я стала жыць у Васіля Тарашкі. Меў ён дзве дачкі, крыху старэйшыя за Кацю. Дзяўчынкі вельмі пасябравалі, а гасціннасць гэтага дому Каця ўспамінала са слязамі ўсё жыццё. На жаль, дом быў спалены, а гаспадары закатаваныя, на пераломе 1918 і 1919 гадоў. Гаспадар знайшоў быў у лесе параненага салдата, прынёс дахаты і вылечыў яго. Аказалася, быў гэта сын вельмі вядомых у Расіі людзей, аб чым ніхто дома не ведаў. Праўдападобна, шукалі яго. У Каляды спаліла дом група казакоў. Ураталіся наймалодшая дачка, ранены, які быў схаваны ў хляве, і бежанцы, бо былі там чужыя.

Раман Барбары Гаральчук не чысты дакумент, хаця абаперла свой аповед на сапраўдныя падзеі. Бывала, замяніла ці выдумала імёны герояў, якія паявіліся на шляху яе продкаў. Моманты запісаны з веданнем рэалій таго часу, знаёмствам чалавечай псіхікі, талентам уяўлення, амаль з фатаграфічнай дакладнасцю. Асабліва жанчыны паказаны ў велічы трагедыі і моцы, якая дазволіла перажыць не толькі сваёй радні, але і вярнуцца на радзіму, на голы камень, дзе яны зноў умацавалі карэнне, аднавілі жыццё на радзіме.

— Гэта сапраўдная гісторыя, напісаная з думкай аб захаванні памяці пра падзеі стогадовай даўнасці. Кнігу прысвячаю свайму сыну Марку, праўнуку Кацярыны.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Барбара ГАРАЛЬЧУК

Барбара ГАРАЛЬЧУК

## Шукала, шукала

*Хадзіла ж, цябе я шукала.*
*Жыццё маё пратрасала.*
*І дзе ж цябе знайсці?*
*І куды ж мне зайсці?*

*Шукала ў кніжцы, у казцы,*
*З зор паўночных ласцы,*
*У снах, як мора глыбокіх,*
*У кветках сінявокіх.*

*Шукала дзе хоч. У паняверцы*
*Забыла заглянуць у сэрца...*

## „Пазнай” Беларусь

У Беластоку адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу „Пазнай Беларусь”, ладжанага Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы. Удастоіць урачыстасць прыехала некалькі афіцыйных асоб з Рэспублікі Беларусь, якія ўручалі ўзнагароды лаўрэатам. У іх ліку была і намесніца галоўнага рэдактара дзіцячага часопіса „Вясёлка” Анастасія Радзюкевіч. Калі наступіла яе чарга, яна папярэдзіла сваю ўручальніцкую ролю кароткім пазнавальным спічам пра Беларусь; вось яго змест:

— Мне вельмі прыемна, што вас цікавяць факты пра Беларусь. Мне вось было б цікава задаць вам пытанне, як называецца самае вялікае возера ў Беларусі. Можа хто ведае? Самае вялікае возера ў Беларусі?.. [Галасы з залы: Нарач! Нарач!] Не, — запярэчыла спадарыня дэлегат. — [Падказ ад іншай беларускай дэлегаткі Юліі Рубіной, намесніцы дырэктара КЦБ: Самае глыбокае!] Самае глыбокае. Не, прабачце, самае вялікае. А, яна проста ведае, яно называецца Глыбокае. Давайце апладысменты намесніцы Юліі; яна ў нас забірае ўсе падарункі. [Спадарыня Рубіна не забірала, толькі падносіла ўсе падарункі для ўручэння лаўрэатам — А. В.] Юлія, калі б ён у Вас быў, я б Вам яго падарыла. Запомнілі, як называецца самае вялікае возера ў Беларусі? Глыбокае! А вялікае, безумоўна, Нарач.

Мы, тут, у Польшчы, назіраючы за падзеямі на мясцовай палітычнай сцэне, часта ганарымся, што жывём у самай вясёлай краіне нашага рэгіёна. Але ж і Беларусь, у гэтым плане, у плане весялосці, як паказала гідралагічна-краязнаўчая даведка нашай госці — не лыкам шытая.

* * *

А цяпер час адправіць прывезеную спадарыняй Анастасіяй Радзюкевіч энтрапію разам з ёю назад у Беларусь і прывесці правільныя гідралагічна-краязнаўчыя даведкі пра беларускія азёры. Самае глыбокае возера ў Беларусі называецца Доўгім возерам; яго найбольшая глыбіня — 53,7 метра, плошча — 2,6 кв. км. Гэтае возера — Доўгае — знаходзіцца на Глыбоччыне, на поўначы Беларусі, у басейне Заходняй Дзвіны. А самае вялікае возера Беларусі, гэта Нарач, каля Мядзела, у басейне Віліі, а больш агульна — Нёмана; яго плошча — 79,6 кв. км, а найбольшая глыбіня — 24,8 метра. **(ав)**

## Мадэрнізацыя вёскі

Сучаснае жыццё нясе для горада і вёскі новыя праблемы. Вёска XXI стагоддзя будзе выглядаць зусім інакш, чым некалькі дзясяткаў гадоў назад.

У маі гэтага года мадэрнізацыя завітала ў Альхоўку, каля Нараўкі. Вялікія, разумныя машыны — экскаватары, бульдозеры і самазвалы пашыраюць тут вуліцу, кладуць новыя «з польбруку» тратуары і новы, тоўсты слой асфальту.

Вакол вёскі пракладваюцца шырокія, 9-метровыя жвіроўкі. Машыны на альхоўскіх лугах капаюць канавы для асушкі балот. Усё гэта робіцца за еўрасаюзныя грошы. Жыхары вёскі жартуюць, што ім будуюць шлях «Усход-Захад». У палове чэрвеня мадэрнізацыя Альхоўкі завяршаецца. Вёска будзе прыгожай і хто тут даўно не быў, той не пазнае Альхоўкі.

Шкада толькі, што ў Альхоўцы меншае жыхароў. Можа, паселяцца тут новыя людзі, каб падыхаць багатым у кісларод пушчанскім паветрам.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Беларускі малебен
## на заканчэнне школьнага года

— Мы просім у Бога, каб атрымаць новы камп'ютар, бо ў сяброў навейшая мадэль. І не глядзім ці на гэта ў бацькоў хапае грошай. Што атрымліваецца з такіх жаданняў? Ці яны дабавяць нам мудрасці? Ці будзем лепшымі людзьмі? Не, гэта сляпая дарога. Маліцца трэба, каб Усявышні дабавіў нам здольнасцей, каб паспрыняў нашаму развіццю. Тады нас прыкмецяць, будуць гаварыць з пашанай, — сказаў айцец Рыгор Місіюк.

Як кожны раз, на заканчэнне 2014/2015 навучальнага года аб'яднанне АБ-БА заказала беларускі малебен. Дзеткі, моладзь, бацькі і нават дзядулі з бабулямі прыйшлі 11 чэрвеня ў беластоцкую Свята-Юр'еўскую царкву, каб падзякаваць за поспехі і ўдачы. На працягу года ў Беластоку служацца тры беларускія малебны: у пачатку і канцы школьнага года ды 25-га Сакавіка. З кожным годам малебен усё больш шматдзетны і ўпрыгожаны малітвамі, спяванымі на беларускай мове. Проста, на хоры спяваюць многія бацькі нашых дзетак.

— Канікулы — гэта не толькі час адпачынку, — гаварыў айцец Рыгор, — гэта час падрыхтоўкі да новага навучальнага года.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**





*Вераніка Кардзюкевіч,*
*ПНШ свсв. Кірылы*
*і Мяфодзія ў Беластоку*

### *Ікона*

*Усё, што добрае*
*Святое...*

*Схаванае ў малым*
*Анёле...*
*Святыя Адам з Евай...*
*Хрыстос...*
*І мая ціхая сціплая малітва.*

### *Гадзіннік*

*Секунда за секундай*
*Мінута за мінутай*
*Гадзіна за гадзінай*
*Дзень за днём...*

*Ён вызначае мне час*
*майго жыцця,*
*Час майго шчасця,*
*Час майго смутку.*

*Час долі і нядолі*
*маёй Радзімы — Беларусі.*

# Юбілей і сюрпрызы

**Даражэнькія!** Якраз адзначаем 20-годдзе Сустрэч «Зоркі». Юбілей святкуем за працай, цягам бягучага тыдня праводзім майстар-класы для карэспандэнтаў «Зоркі». Таксама з 15 па 20 чэрвеня супольна будзем працаваць у рэдакцыях і складаць сустрачанскія газеткі. Нас наведаюць лідары беларускіх цэнтраў, вядомыя журналісты, літаратары і мастакі. Юбілей адзначым таксама творчай прэзентацыяй нашых маладых аўтараў. Сярод іх — Вераніка Кардзюкевіч. Вось, яе вершы прыкмеціў сам Віктар Швед. І гэта не ўсё — наш дастойны паэт, які ў гэтым годзе адзначае 90 гадоў, прысвяціў нашай Вераніцы цудоўны верш. Трэба дадаць, што гэта адзінае такога роду прысвячэнне Віктара Шведа на працягу апошніх дваццаці гадоў. Мы шчаслівыя і рады, што нашыя юбілеі разыграліся на ніве паэзіі.



Віктар Швед з Веранікай Кардзюкевіч (справа) і Габрыеляй Торкай

*Віктар Швед*

### *Вераніка*

*Вераніка, Вераніка,*
*Будзь нам торчай асалодай.*
*Відаць, Бог цябе паклікаў,*
*Каб служыць свайму народу.*

*Вераніка, Вераніка,*
*Маеш творчыя ты гены.*
*Адыдуць паэты з ліку,*
*Будзь жа ты іх новай зменай.*

*Вераніка, Вераніка,*
*Сапраўды ў цябе я веру.*
*Прад табою свет вялікі,*
*Будзь нам Зоркаю Венерай!*

*10 чэрвеня 2015 г.*

Хочам таксама дадаць, што наш юбілей шырэйшы ў сэнсе выпускаў. Зараз у нас ужо 29-ты выпуск Сустрэч «Зоркі». Пра гэтую непаслядоўнасць узніклі нават анекдоты, якія можаце прачытаць у нашым э-архіве на сайце **www.e-zorka.pl** або на фейсбуку www.facebook.com/pages/Сустрэчы-Зоркі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# АВЕЧКА І КАЗА

*(кабардзінская казка)*

Жылі-былі дзед і бабка. У іх нічога не было, толькі адна авечка і адна каза. Скончылася сена. Як ім жывёлу пракарміць? Выпусцілі старэчы з хлява казу і авечку, каб самі ад галоднай смерці ратаваліся.

Выйшлі на дарогу авечка і каза, ішлі яны доўга ці коратка, бачаць на дарозе сумка ляжыць, а ў ёй воўчая галава. Узялі яны сумку і пайшлі далей.

Настала ноч. У лесе цёмна, страшна. Куды ім бедным падзецца? Раптам пабачылі яны паляну і вогнішча. Каля кастра тры ваўчышчы сядзяць і кашу гатуюць. Калі яны пабачылі авечку і казу, ад радасці зубалі выскалілі:

— Ой як класна, будзе ў нас мяска!

— Што так гатуеце? — спытала іх каза.

— Кашу! — адказаў адзін воўк.

— Гэта добра, будзе ў нас закусь. Дастань, калі ласка, воўчую галаву з сумкі, — кажа каза авечцы.

Дастала авечка воўчую галаву з сумкі, а каза як закрычыць:

— Я ж табе гаварыла, дастань большую галаву! Чаму ты такую маленькую дастала?

Напалохаліся дурныя ваўкі:

— Дровы ў нас канчаюцца, пайду назбіраю сухіх галінак у лесе, — сказаў адзін воўк і папёрся ў кусты. Сядзяць два ваўкі, каза і авечка, а трэці воўк не вяртаецца.

— Дзе ж наш брат? Пайду, пашукаю яго, — сказаў другі воўк і таксама збег у лес.

Пасля нейкага часу трэці воўк кажа:

— Пайду, пашукаю братоў. Самі не трапяць на месца, — сказаў і драла ў гушчу.

Калі ўцёк апошні воўк, каза і авечка з'елі кашу, а пасля разбілі кацёл. І палезлі на дрэва, каб паспаць, адпачыць...

Вярнуліся ваўкі на паляну — бачаць, што няма кашы, кацёл разбіты валяецца.

— Чаму мы іх пабаяліся? — сказаў адзін. — Ці каза і авечка могуць з'есці ваўка? Давайце знойдзем іх. Цяпер яны ўжо нас не ашукаюць.

Раптам як крыкне каза:

— Хапай самага вялікага ваўка! Мне есці схацелася!

Пачулі ваўкі такія словы, яшчэ больш злякаліся і разбегліся ва ўсе бакі ў густы лес.

**(пераклад рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



## Вершы Віктара Шведа



### Татка посуд змывае

Быццам пакрыўджаны часам  
Бацька змывае посуд.  
Было пытанне Адама:  
— Колькі год служыш у мамы?

Тата мусіў прызнацца:  
— Люблю я гэтую працу.  
Раблю старанна, паволі,  
Няма ў мяне шчэпак ніколі.

### Ля тыгравай клеткі

Тата споўніў павіннасць,  
У заапарк забраў сына.  
І затрымаўся дзетка  
Побач тыгравай клеткі.

— Ты не падходзь да звярочкаў,  
Тата просіць сыночка.  
— Я не пакрыўджу іх, татка,  
Усё будзе ў парадку.

## УВАГА КОНКУРС! № 25-15

### Загадкі з роднай хаткі

**Зноў яна**  
**у лузе плача.**  
**Хтось пакрыўдзіў,**  
**не іначай.**  
**— Кі-гі, кі-гі,**  
**Кі-гі, кі-г...**  
**Нейкіх зноў**  
**Канючыць кніг?**  
**Раптам**

**Ціха-ціха стане.**  
**Хто ты?**  
**Кнігаўка, ці ...**  
**(К...)**

**Як маленькія сонцы,**  
**На траве і на сонцы,**  
**І на лісцейку асінкі**  
**Ззяюць кропелькі...**  
**(Р....)**

Н. А. Сторажава

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 28 чэрвеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 21-15: шыпшына, вецер. Узнагароду, зборнік вершаў «Малінавы год» выйграла Оля Мішчук з Арэшкава. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 25-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21:**

Сяло, гід, Марк, Альпы, дар, сядло, зубы, дзьмухавец, квік, ара, авал, Адась, збан. Ядваб, ар, дзіва, калька, лом, паха, араб, звада, гадуе, абцас, дары.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк**, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Наталля Лукша** з Нараўкі. Віншуем!



# Няма жыдоўскіх мястэчак


Хілік Вейцман

Надвор’е з тэмпературай печкі, у якую толькі што паклалі бляху з хлебам, яму не навіна, але такой веснавой цеплыні ў Беластоку не спадзяваўся. Не спадзяваўся і не падрыхтаваўся. Свабоду руху незнарок абмежаваў сабе рукзаком і зусім непатрэбнай цёплай курткай. Толькі што завяршыў дзённую порцыю навуковых даследаванняў. Усміхаецца, але ў спакойных чорных вачах бачу стомленасць. Асаблівую ўвагу прыцягваюць крыху пасівелыя, чорныя валасы. Мабыць, настолькі аддаўся навуцы, што і пра цырульніка забыў.

— Сапраўдныя чорныя, жыдоўскія кудзеры, — тлумачыць з нотай правакацыі. — Спецыяльна не падстрыгся, каб мясцовым лягчэй было зарыентавацца, хто я такі.

Хілік Вейцман з Іерусаліма, працаўнік Інстытута Яд ва-Шэм, дактарант Універсітэта ў Хайфе. Цікавіцца пасляваенным лёсам жыдоўскіх могільнікаў і сінагог у Польшчы. Удакладняючы, даследуе, чым з’яўляюцца яны сёння і як іх успрымаюць нежыдоўскія жыхары былых штэтлаў. Адной з мэт яго прыезду ў Беласток з’яўляецца знаёмства з захоўванымі ў мясцовым архіве адпаведнымі службовымі справаздачамі і карэспандэнцыяй камуністычнага перыяду.

**— Каб прачытаць такі рукапіс, трэба нядрэнна валодаць мовай. Як з гэтым спраўляешся?**

— Вучуся, ужо магу чытаць. Бывае, што над канкрэтным тэкстам сяджу даўжэй, альбо прашу дапамогі ў польскіх сяброў.

**— Складаецца ўражанне, што хутка прывыкаеш да новых месцаў. Ці помніш свой першы візіт у Польшчу?**

— Гэта быў зусім іншы вопыт. Я, васемнаццацігадовы падлетак, стаў удзельнікам абавязковай, узмацняючай жыдоўскую свядомасць, школьнай экскурсіі. У нас усе так робяць. Тады я нават не прыехаў у Польшчу, я прыехаў у Аўшвіц.

**— Аўшвіц, Трэблінка, Майданак, Сабібор для Тваіх суайчыннікаў з’яўляюцца нічым больш як дзяржавай у дзяржаве. Здаецца, аднолькава ставяцца яны да ўласнай тоеснасці. Кім з’яўляецца жыд, продкі якога нарадзіліся ў Польшчы і дзе яго айчына? Юльян Тувім заплаціў высокую цану за любоў да краіны свайго нараджэння.**

— Менавіта, так. У рамках такой экскурсіі-пілігрымкі магчыма пабачыць варшаўскае гета і кракаўскі жыдоўскі квартал, але напэўна не Польшчу. Я сам доўга ішоў да высновы, што ёсць нешта такое як Польшча. Раней падзеі Другой сусветнай вайны былі для мяне настолькі магутнымі, што прыкрывалі ўсё астатняе. Тут бачыў я толькі адзін вялікі могільнік. Студэнты, з якімі сустракаюся ў Яд ва-Шэм сапраўды не ў змозе адрозніць Польшчу ад Нямеччыны. Гэтая частка свету з’яўляецца для іх выключна пустой прасторай, праломам паміж прошлым і будучыняй, вялікім кіркутам. Толькі Ізраіль называюць сваёй бацькаўшчынай, усё астатняе — Халакост.

**— Цяпер крыху пра Твае даследаванні...**

— У Польшчы, асабліва ў жыдоўскіх мястэчках, у асноўным адчуваю недахоп. Паяўляюцца пытанні, што тут адбываецца, што сталася з людзьмі, якія тут жылі. Іх няма, нічога няма, засталося нішто. Для мяне цікава даведацца, што гэта такое „нішто”. Якім чынам і навошта існуюць, якое месца займаюць у свядомасці сённяшніх жыхароў яўрэйскіх гарадкоў астаткі сінагог і кіркутаў. Ці заступаюць яны адсутных? Стаўленне мясцовых да гэтых матэрыяльных астаткаў, па-мойму, раўназначнае з іх стаўленнем да памяці пра самых жыдоў. Гэта такая малая лабараторыя польска-жыдоўскіх суадносін. Руіны сінагогі ў цэнтры гарадка, у якім няма ўжо жыдоў, усё-такі маюць нейкае значэнне для пражываючага там насельніцтва. Гэта ж не звычайная хата ці гумно. Пасля вайны пустыя сінагогі прыгняталі мясцовых, яны не ведалі, што з імі зрабіць. Часам іх ахоўвалі, часам знішчалі, нехта ладзіў там танцы, іншыя нечага баяліся, але заўсёды былі гэта асаблівыя месцы.

**— Ці сочыш за культурнымі падзеямі ў нашым рэгіёне, накіраванымі на захаванне памяці пра жыдоў?**

— Так, нешта я чуў пра тое. Здаецца, гэта агульнапольская тэндэнцыя. Можна гэта каментаваць на любы спосаб. Цяпер людзі пачынаюць думаць і гаварыць пра шматкультурнае прошлае, не зважаючы на сучасную аднароднасць Польшчы. Прабуюць сунастаўляцца, кранаць пасля гадоў някранутую частку ўласнай гісторыі. Гэтыя мерапрыемствы служаць здабыванню не хапаючых частак мясцовай гісторыі, а заадно стварэнню новай тоеснасці мясцовага насельніцтва. Яны запаўняюць пустую прастору, створаную людзьмі, якія для гэтай краіны зрабілі сапраўды шмат.

**— Пабываў Ты таксама ў Крынках.**

— Вельмі зацікавілі мяне размовы з выпадкова напатканымі там людзьмі. Аказваецца, жыдоўская старонка іх прошлага яшчэ не зусім забытая. Прынамсі ўсе яны ведаюць, дзе ў мястэчку знаходзяцца сінагогі і жыдоўскі могільнік. Гэтыя месцы, асабліва ў камуністычны перыяд, не знаходзіліся пад належнай апекай. Там пасвілі кароў альбо ў лепшым выпадку гулялі ў хованкі. Думаю, што ў параўнанні з іншымі гарадкамі ў Крынках памяць пра жыдоў зберагласся і гэта вельмі важнае. Не ведаю ці захавалася тут нейкая сувязь з мясцовымі польска-жыдоўскімі суадносінамі даваенага перыяду.

**— Ці спадзяешся, што Твая навуковая праца ўнясе нешта новае ў польска-жыдоўскія суадносіны?**

— Маю такую надзею. Напэўна нічога не памяняю, але магу нешта дадаць да ўжо існуючых даследаванняў. Думаю, што шмат было зроблена ў гэтым плане пра перыяд да Халакосту. Я займаюся захаваннем памяці пра жыдоў у пасляваенны перыяд. Гэта складаная тэма, але яна добра паказвае стаўленне людзей да траўмы.

**— Удзельніцтва ў мінулагодняй частцы Тваіх даследаванняў было для мяне вялікім адкрыццём. Я пачала заўважаць непрыкметнае. Гэта напамінала выклікання дагэтуль невядомых мне духаў. Ці толькі на іх выкліканні ўсё гэта закончыцца?**

— Гэта не залежыць ад мяне. Я займаюся навуковай працай. Не збіраюся нікога павучаць ні прымушаць. Думаю, што калі жыдоўская справа мае нейкае значэнне для жыхароў гэтай краіны, яны павінны не толькі гаварыць пра тое, але і нешта зрабіць. Нікога не абвінавачваю ў недаглядзе кіркутаў. Справа ў тым, ці паляки бачаць гісторыю жыдоў як частку сваёй уласнай гісторыі. Гэта ж не так ужо цяжка ўтрымаць парадак на могільніку. Яўрэі таксама павінны нешта зрабіць у гэтым напрамку. Недастаткова толькі прыехаць, паглядзець і панаракаць на польскі антысемітызм. Калі ты жыд, зрабі нешта з гэтым. Нікога не абвінавачваю, але калі каму гэта важнае, сам павінен нешта зрабіць.

Гутарыла Іаанна ЧАБАН

# Успамінаю Гайнаўку паўвекавой даўнасці

З Гайнаўкай я быў звязаны з часоў свайго дзяцінства. Мая мама з вёскі Дольнае (зараз так называецца адна з гайнаўскіх вуліц на заходняй ускраіне горада) выйшла замуж у Новае Ляўкова. У Дольным — як запамятаў — сталі драўляныя хаты з саламянымі стрэхамі і вельмі часта былі яны спалучаныя з хлявом. У Гайнаўцы і цяпер жывуць ёе пляменнікі. Пяцьдзясят гадоў таму яшчэ жылі бацька і мачаха мае мамы, брат Федзя і сястра Вольга. Мы з бацькам і мамай наведвалі іх. Мой бацька вазіў мамінай сястры бульбу, буракі і капусту ды часта дровы на зіму.

Бацькі астаўлялі мяне на пару дзён у сям’і Федзі і я меў у Гайнаўцы новых калег. Летам і восенню мае гайнаўскія сябры вельмі любілі займацца футболам. Для гэтага мелі вялікую плошчу паш-паплавоў паабапал вуліцы Электрычнай. Зімой мы каталіся на каньках. Найчасцей з’язджалі на луг з высокага насыпу чыгуначнага пуці з Гайнаўкі ў Семяноўку. Дзяцей і моладзі збіралася процьма. Гоман і крыкі чутны былі пасля поўдня да змяркання ды яшчэ пазней, калі на вуліцы Паддольнай уключалі вулічнае электраасвятленне.

Дагэтуль сістэма вуліц у Гайнаўцы няшмат памянялася. Новых пабудавалі ўсяго некалькі, у тым ліку адну з найдаўжэйшых — вуліцу Ракавецкага (ад жыллёвага пасёлка Лясныя Калейкі да новапабудаванай бальніцы), Новую, Белавежскую і Жабяй Горкі. Вуліцы не былі такія шырокія як цяпер. На важнейшых быў брук або шлак (дзындра). Пасля ападкаў было поўна балота, між іншым, на вуліцах Паддольнай, Электрычнай і іншых тады яшчэ безыменных.

Вуліцы ў цэнтры горада мелі назвы: Сталіна (пасля 1 Мая, цяпер 3 Мая), Леніна (цяпер Арміі Краёвай), Варынскага (зараз Баторыя), Бучка (кс. Верабея), Вызвалення (Пілсудскага) і Пралетарыяцкая (11 Лістапада). Не было вуліц са скрыжаваннямі з кругавой развязкай (а цяпер іх чатыры). Зараз ёсць два скрыжаванні са святлафорамі. Найбольш тратуараў пабудавалі за апошнія дваццаць гадоў.

Яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя паабапал гайнаўскіх вуліц расло многа высокіх прыгожых дрэў: дубоў (многія з іх растуць і цяпер), ліпаў, клёнаў і бяроз. Дамы былі пераважна драўляныя. Царква таксама. Яна была адна на ўвесь горад (на яе месцы цяпер вялікі Свята-Троіцкі сабор). Мураваныя шматпавярховыя жыллёвыя будынкі пачалі ставіць у цэнтры горада і на пасёлку Пашкі. Прыватнае жыллёвае будаўніцтва разгарнулася ў раёне вуліц Паддольная, Новая, Паўднёвая, Электрычная, Бельская і іншых.

У шасцідзясятых гадах мінулага стагоддзя ў Гайнаўцы поўным ходам працавалі фабрыкі на базе драўніны: мэблевая фабрыка і г.зв. паркецярня, хімічная фабрыка ды вялікі тартак. Цяпер не ўсе ведаюць, дзе знаходзіўся шкіпінарны завод (terpentyniarnia). Быў ён на месцы сённяшняга гарадскога парку.

Добра памятаю колішні чыгуначны вакзал. Побач пуці стаяў доўгі драўляны будынак пачакальні для пасажыраў. У ім працаваў дзяжурны руху паяздоў. У гэтым бараку быў бар. У ім абедалі не толькі чыгуначнікі. Ён быў адкрыты ад раніцы да вечара для ўсіх, хто сюды заходзіў. Я і некаторыя мае аднакласнікі ў 1958-1962 гадах штодзень ездзілі поездам з чыгуначнага прыстанку з надпісам „Нараўка” (хаця ён быў у Плянце а да Нараўкі адсюль ажно 4 км) у сярэднія і прафесійныя школы. Паязды часта прыязджалі да адпраўляліся ў Бельск-Падляшскі, Белавежу, Чаромху і ў Семяноўку. Ва ўсе дні — будныя і святочныя. Ездзіла многа людзей. Хто на працу, хто ў школу а хто толькі ў кірмашовы дзень на базар. З даездам не было такіх праблемаў, якія маем зараз. Цяпер не паедзеш пасажырскім цягніком у Семяноўку, Белавежу або ў Бельск-Падляшскі. Апусцеў і заглух вакзал. Што такое можа здарыцца, ніхто раней не прадбачваў.

Гайнаўка помніцца мне невялікім ціхім і спакойным горадам. Было ў ім многа дрэў і кветак. Садзілі іх перш-наперш паабапал галоўных вуліц. І я пісаў тады пра гэта ў „Ніву”. Прыгожы і задуменны быў горад каляровай восенню. Вецер шумеў у галінах высокіх дрэў, ападала лісце з пажаўцелых клёнаў, ліпаў і бяроз. Яно доўгі час шалясцела пад нагамі. Вечарамі вуліцы стаялі ціхія-ціхія. Патаналі яны ў паўзмроку — тады няшмат было вулічных ліхтароў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

Размова з **АРТУРАМ КЛІНАВЫМ** (1965 г. нар.), канцэптуальным мастаком: жывапісцам, перформерам, пісьменнікам, фатографам, з 2001 года выдаўцом культавага, прысвечанага мастацтву часопіса «pARTisan», аўтарам культавай кнігі «Мінск. Даведнік па Горадзе Сонца», у якім яго асабістыя перажыванні пераплятаюцца з апісаннямі гісторыі і архітэктуры беларускай сталіцы і са спасылкай на ўтапічны твор Тамаза Кампанелы.

# ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЮЦЦА

Падчас апошняга знаходжання ў Мінску сустрэўся я з Артурам Клінавым у самай прэстыжнай галерэі сучаснага мастацтва ў Беларусі — Галерэі «Ў». У дзень майго прыбыцця скончылася там прэзентацыя як яго назвалі — выставачнага праекта-дакумента «Мінск. Нонканфармізм 1980-х», які шырока адбіўся рэхам і па-за межамі краіны. Куратарам выставы быў якраз Артур Клінаў, а сукуратарамі — Таццяна Арцімовіч і Аляксей Барысёнак. Яна ўключала ў сябе творы, дакументы, фатаграфіі і г.д. з аднаго з самых захапляльных перыядаў сучаснага беларускага мастацтва пасля апошняй вайны, званага крыніцай самага новага беларускага авангарду.

**Мацей Халадоўскі: — Чаму ў 2015 годзе Вы рашылі арганізаваць «Мінск. Нонкарфармізм 1980-х»?**

**Артур Клінаў**: — Адну з роляў сыграла тут чыста тэхнічная справа. Інстытут імя Гётэ ў Мінску, плануючы выставу прысвечаную нямецкаму постмадэрнізму 1980-х гадоў у Цэнтры сучасных мастацтваў, прапанаваў нам, значыць, выдавецтву **«pARTisan»**, каб мы зрабілі на яе свайго роду беларускі адказ, каб прадставілі ўсе нашы арт-рухі 1980-х гадоў. Чаму нам? Таму, што ў нас, верагодна, найбуйнейшы ў краіне архіў, які адносіцца да гэтага перыяду, але не толькі гэта. Мы апублікавалі некалькі гадоў таму альбом «Беларускі авангард 1980-х», што застаецца фактычна адзіным дакументам, у якім зроблена спроба задакументаваць гэтую з'яву. На працягу амаль дваццаці гадоў выпуску часопіса **«pARTisan»** мы сабралі сотні тэкстаў, выяў, нейкага роду іміджаў, фотаздымкаў, дакументаў, так што здавалася лагічным, што з ідэяй Інстытут імя Гётэ звярнуўся да нас. Другая прычына ў тым, што гэты перыяд для беларускай культуры надзвычай важны...

**— Ну, вось, чаму?**

— На мой погляд, гэта быў ключавы момант для сучаснай, новай, незалежнай беларускай арт-сцэны. Тады заснаваны для яе базу. На жаль, цяпер яна забыта: творы з гэтага перыяду, у асноўным, вывезены з Беларусі, і дакументаў аб іх яшчэ менш, таму што тады практычна ніхто гэтым не займаўся. Трэба аб ім памятаць, таму што культура павінна мець свой пункт апоры, не можа з'явіцца з ніадкуль у пустыні. У тую эпоху закладвалі традыцыі новай беларускай культуры, якая ў цяперашні час працуе. Наша выстава стала падставай для таго, каб даць нонканфармізму сённяшні кантэкст і аднавіць шмат забытага: імёны і падзеі, якія мелі рэвалюцыйны характар. Цэлая гэтая эпоха была ўнікальнай і пераломнай. Гэта быў час змены сацыяльнага парадку і вялікіх надзей, вялікіх авансаў. Час вельмі рамантычны і натхнёны. Пасля, у 1990-я гады, прыйшло расчараванне, але гэта было пасля.

**— Наколькі я ведаю, у 1980-х так было ў Беларусі не толькі ў свеце выяўленчага мастацтва?**

— Рашуча так. Тады, нарэшце, адчыніліся дзверы і з'явіліся новыя магчымасці, раней нерэальныя. Гэта быў час вялікіх чаканняў новага жыцця. У 1990-я гады гэтыя чаканні ўступаюць у кантакт з жорсткай сістэмай, жорсткай рэальнасцю і пачаліся расчараванні.



Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**— Вы сказалі, што гэтая выстава дазволіла даць сённяшні беларускі кантэкст. Які гэта кантэкст?**

— Сучасная незалежная, або, як яе называюць, альтэрнатыўная, авангардная беларуская культура функцыянуе ля крыніц той эпохі, таго нонканфармізму. Вядома, гэта не называецца ўжо нонканфармізмам. Што тычыцца выяўленчага мастацтва ў адносінах да шукаючага інтэлектуальна, эксперыментальна, больш распаўсюджаным сёння ёсць паняцце **contemporary art** (у літаральным перакладзе з англійскай — сучаснае мастацтва, у цяперашні час выкарыстоўваецца ў англійскай версіі ў дачыненні да пошукавага мастацтва, у розных яго галінах — М. Х.). Наш нонканфармізм стаў супраць савецкаму мастацтву, культуры. Сучаснае незалежнае беларускае мастацтва, культура процістаяць постсавецкай культуры, дзе ідэі, метады і інстытуты тамашняга часу захаваліся. У гэтым сэнсе наш нонканфрамізм працягваецца.

**— Што для беларускага нонканфармізму было супольным з заходнееўрапейскімі тэндэнцыямі ў мастацтве, і што іх адрознівала?**

— З аднаго боку, у значнай ступені абапіраўся ён на заходнюю школу і стратэгію, з другога боку, аднак, быў вельмі незалежным. Заходняе мастацтва на практыцы было забаронена, і таму прыцягвала нас. Нашы аўтары стараліся шукаць інфармацыю аб ім ва ўсіх даступных для іх магчымых крыніцах. Пераказ твораў, аднак, быў тутэйшы, датычыў мясцовых кантэкстаў. З фармальнага пункту гледжання пераймаў пэўныя формы, напрыклад, абстракцыянізму, экспрэсіянізму, але была і свая тэматыка, якая тычылася мясцовых рэалій. Гэтае мастацтва кармілася беларускай тэмай. Спасылкі на заходнееўрапейскае мастацтва былі, але без спроб падрабіць, дагнаць ці абагнаць. Прымаліся некаторыя тэхнічныя элементы, але ў цэласці з'ява была самастойная.

**— А ў кантэксце ўсходнім, расійскім?**

— Расійскі нонканфармізм таксама абапіраўся на еўрапейскую практыку. Там таксама спасылаліся на еўрапейскую традыцыю, якая ў расійскім мастацтве выяўлялася ў пачатку XX стагоддзя. Ці тут у Беларусі быў уплыў расійскага авангарду, расійскага нонканфармізму? Цяжка сказаць, ці піцерская або маскоўская школы аказалі ўплыў. Хутчэй ужо гэтыя працэсы адбываліся паралельна. Адзінае, што можна ўбачыць у параўнанні беларускага і расійскага нонкарфармізмаў гэта тое, што той быў больш выразным, паколькі традыцыя, на якую спасылаліся, была больш працяглая і мастакоў было больш, ну, і ні Масква ці Санкт-Пецярбург не перажылі такога генацыду культурных элітаў як тут. Беларусь перажыла некалькі хваляў генацыду інтэлігенцыі — я не кажу тут толькі пра савецкія хвалі, але таксама і пра больш раннія стагоддзі. У Беларусі культурны слой быў вельмі вынішчаны і ў 1980-я гады быў вельмі тонкім. Таксама, мабыць, па прычыне таго, што гэты культурны слой там быў нашмат большы, маскоўскі ці піцерскі нонканфармізм быў у свеце больш заўважаным. Аб нашым свет мала ведае, мы засталіся ў цяні таго маскоўскага і піцерскага.

**— Польскія ўплывы?**

— Польшча аказала вялікі ўплыў, вядома, таксама з-за геаграфічнай блізкасці. Былі папулярныя польскія часопісы, прысвечаныя мастацтву, якія ўжо ў 1970-я гады былі больш даступнымі. Многія з нашых мастакоў прынялі натхненне з іх. У Польшчы, нават у час СССР, у мастацтве можна было зрабіць значна больш. А 1980-я гады гэта было для нас увогуле адкрываннем Еўропы, дзякуючы стварэнню ў вас «Салідарнасці», якая з пункту гледжання ідэі аказала на нас велізарны ўплыў. Паказала, што змены магчымыя не зверху, а знізу, хоць было вядома, што ў Беларусі яны тады былі немагчымыя, асабліва таму, што наша грамадства спала. Наш нонканфармізм быў па здагадцы сістэмна антысавецкім, і «Салідарнасць» зрабіла на яго прадстаўніках вялікае ўражанне. Многія мастакі ў Беларусі наблізіліся да нонканфармізму менавіта з-за яго антысавецкасці, з-за прадстаўляных намі палітычных поглядаў. Гэта мастацтва давала паўлегальную магчымасць выказаць свае меркаванні наконт улады, немагчымыя выказаць у іншы спосаб. Вельмі многія нонканфармісты не мелі мастацкай адукацыі, прыходзілі з-за нашых антысавецкіх поглядаў і на пачатку мастацтва станавілася для іх формай выяўлення нязгоды, і з часам толькі станавіліся яны мастакамі.

**— У якім кірунку ідзе беларускае незалежнае мастацтва цяпер, пасля нонканфармізму і сумненняў 1990-х гадоў, першай дэкады 2000-х гадоў, сярэдзіны другога дзесяцігоддзя трэцяга тысячагоддзя?**

— Абсалютна развіваецца ў еўрапейскім кантэксце. Няма ўжо ніякіх інфармацыйных межаў. Мы стала ведаем аб усіх самых новых тэндэнцыях у сусветным мастацтве. Большасць нашых мастакоў функцыянуе на еўрапейскай сцэне, большасць іхніх выстаў адкрываецца там. Яны падарожнічаюць па ўсім свеце, глядзяць. Могуць жыць тут і працуюць кожны дзень тут, але выставы могуць адкрываць і адкрываюць там ды прымаюць удзел у іншых культурных еўрапейскіх, сусветных падзеях. Апошнім часам наша дзяржава пачынае трохі змяняць свае ўстаноўкі ў дачыненні да сучаснага мастацтва, авангарднага. Прыкладам з'яўляецца стварэнне Цэнтра сучасных мастацтваў (у 2011 годзе — М. Х.), дзе час ад часу ў апошні час рэалізуюцца даволі цікавыя праекты, пасля таго як напачатку варушыліся ў ім у такой мастацкай і выстаўной постсавецкай прасторы, хаця паяўляецца там яшчэ шмат дзейнняў, якія маюць мала супольнага з сапраўдным сучасным мастацтвам. Іншым прыкладам з'яўляецца цікавасць дзяржавы да беларускага павільёна на біенале ў Венецыі. Генеральна, перад сучасным мастацтвам у Беларусі павольна адчыняюцца афіцыйныя дзверы. Дзяржава пачынае разумець, што сучасная культура можа быць адной з яе прыкмет, што калі яна не існуе, дзяржава лічыцца перыферыйнай, нецікавай. Дзяленне на «сваіх» і «чужых» у мастацкім жыцці ў Беларусі пачынае, здаецца, знікаць. Але калі мы маем вайну за нашым парогам, трэба кансалідавацца. Гэта таксама тычыцца і мастацкага свету, калі пад пытаннем ставіцца існаванне дзяржавы ў цэлым.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Размова з Аляксеем СІТКО, дырыжорам хору „Concertino” Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі, які на сёлетнім Фестывалі царкоўнай музыкі ў Беластоку заняў трэцяе месца ў катэгорыі музычных вучылішчаў.**

# Шырокі дыяпазон

**— Як будзем размаўляць: на мове ці на языке?**

— Можам гаварыць на *мове*. Мы не ўвесь час маем магчымасць размаўляць, бо ж большасць у Беларусі размаўляе па-руску, але ж у кожным выпадку, калі ёсць жаданне суразмоўцы, мы з вялікім задавальненнем размаўляем на ёй.

**— Тады, так спачатку, можа Вы крыху скажаце пра сябе: як Вы сталіся музыкам, як прыйшлі на пазіцыю загадчыка хору?**

— Мая закаханасць у музычнае мастацтва прыйшла ад майго бацькі, які вельмі любіў музыку, і ягонага брата, які з'яўляецца прафесійным дырыжорам. Я такім чынам выразшыў паступіць у музычную вучэльню імя Глінкі ў Мінску на спецыяльнасць харавое дырыжыраванне, пасля яе заканчэння паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. Мне вельмі пашанцавала трапіць у клас дацэнта Ларысы Шымановіч, вельмі таленавітай і самааддананай сваёй працы педагога, якая змагла яшчэ больш прывіць пачуццё любві і разумення розных музычных стыляў. Яе вялікая закаханасць у музычнае мастацтва перадалася мне, становячыся такой пуцяводнай ніццю, якой я трымаюся. Таксама мне пашчасціла вучыцца ў харавым класе прафесара Віктара Роўды — у сапраўднага тытана харавога мастацтва, які змог прывіць усім нам вернае чуццё царкоўнай музыкі, таму што ён вельмі тонка і вельмі блізка адчуваў яе глыбіню. Пасля заканчэння Акадэміі навучаўся ў магістратуры, зараз навучаюся ў аспірантуры, пішу навуковую дысертацыю. Працую таксама з двума харавымі калектывамі — гэта такая праца, якая дабаўляе сіл, таму што ўвесь час займаемся музыкай. Гэта вялікае шчасце карыстацца магчымасцю дакранацца да музыкі. Удалося мне скласці два калектывы і зладзіць з імі работу. Першы калектыў, з якім я пачаў працу, гэта ўзорны хор „Тоніка” мінскай Дзіцячай музычнай школы № 1, з якім я займаюся і зараз. Два гады таму я арганізаваў жаночы камерны хор „Concertino” ў Мінскім музычным каледжы імя Глінкі, які склалі дзяўчаты са спецыяльнасцей сольнага спеву і харавога дырыжыравання. Такое спалучэнне дае магчымасць злучыць выдатныя сольныя галасы з натхнёнасцю будучых харавых дырыжораў; гэта, на мой погляд, вельмі эфектыўна і цікава з пункту гледжання харавога дырыжора. Мы набылі ўжо вопыт удзелу ў конкурсах — мы летась удзельнічалі ў конкурсе беларускай нацыянальнай харавой музыкі „Рэха”, сталі там пераможцамі. Пасля гэтага мы правялі серыю канцэртаў і калі мы атрымалі запрашэнне прыняць удзел у фестывалі царкоўнай музыкі „Гайнаўка” ў Беластоку, мы з вялікім задавальненнем і з вялікім хваляваннем успрынялі гэта, бо ж на такі конкурс запрашаюць толькі выдатныя і добра падрыхтаваныя харавыя калектывы. Таму для нас была гэта вялікая адказнасць, бо хацелася і правільна падабраць праграму, і сама царкоўная музыка патрабуе не толькі музычнай натхнёнасці, але ж і асэнсаванасці выканання, разумення выканаўцамі духоўнасці. А гэта няпроста, таму што ў хоры маладыя людзі, калі ў іх ідзе станаўленне асобы, калі ў свеце вельмі многа розных спакус, мноства добрых і нядобрых інфармацый — праца над такой музыкай патрабуе адмысловага адключэння і засяроджанасці. Гэта працэс складаны, але, як мне здаецца, у канцы падрыхтоўкі хор змог пранікнуцца гэтай музыкай, асэнсаваць і палюбіць яе. Таму лічу, што гэтая праца пойдзе толькі на карысць маім харыстам. А сам прыезд на фестываль застанецца ў нас у вельмі добрай памяці, таму што, па-першае, горад Беласток зусім недалёка ад граніцы, да таго ж ён адметны — у ім ёсць свой дух. Гэта вельмі прыемна і цікава — мы тут адчуваем асаблівую блізкасць. Польская культура нам вельмі цікавая і нам карысна з ёю пазнаёміцца, бо ж гэта культура нашых суседзяў і мы хочам больш з ёй кантактавацца.

**— Вы сказалі, што духоўная музыка патрабуе спецыфічнага падыходу. А скажыце мне цяпер, які дыяпазон таго музычнага краявіду, у які Вы кіруеце сваё зацікаўленне, з якіх напрамкаў падбіраеце рэпертуар для Вашага хору?**

— У наш рэпертуар падбіраем духоўную музыку з двух напрамкаў: з праваслаўя і каталіцтва. Гэта музыка заходнееўрапейскіх кампазітараў, сярэднявечча, барока і г.д. Ды музыка праваслаўная, літургічная. Чарговы напрамак гэта свецкая акадэмічная музыка, напрыклад, мы ў студзені выканалі цыкл з шасці хароў Сяргея Рахманінава для жаночых або дзіцячых галасоў. Тут неабходна дадаць, што музыка кампазітараў акадэмічнага напрамку заўсёды ў нейкім сэнсе пранікнута духоўнасцю. Важным напрамкам нашай працы з'яўляецца выкананне народных песень, бо гэта таксама ідзе з глыбіні вякоў, гэта ў нашай крыві і гэта цікава. Спяваем у першую чаргу беларускія народныя песні і песні розных народаў свету, галоўным чынам нашых суседзяў. Яшчэ цікавіць нас такі напрамак як спірычуэл, ён вельмі папулярны, таксама прапаведуе духоўнасць, гэта вельмі дэмакратычны і даступны жанр для шырокага слухача.

**— Прабачце, я ў апошняй тэме прафан. Ці ў музыцы спірычуэл ёсць тэксты толькі на англійскай мове, ці выступаюць нейкія славянскія тэксты?**

— Не, не сустракаюцца, хіба што гэта нейкі квазі-спірычуэл на іншай мове. Але спірычуэл гэта музыка афраамерыканскіх рабоў, яна з глыбіні вякоў, там шмат, у асноўным, біблейскіх сюжэтаў, таму вельмі вось цікава дакранацца да духоўнасці з розных рэгіёнаў свету. Яшчэ выконваем джаз — гэтая музыка таксама патрабуе дакладнасці выканання, патрабуе вельмі многа працы. Выконваем таксама свецкія песні розных гадоў, у тым ліку і ваенныя. Імкнемся займацца цэлым дыяпазонам, каб асвоіць усю яго разнароднасць.

**— Ваш калектыў адносна малады. Вы ў Беластоку, здаецца, упершыню. А які шырэйшы гарызонт, дзе Вы з Вашым хорам выступалі?**

— Шмат канцэртаў выконваем у Мінску: ад пачатковых музычных школ да Дзяржаўнай філармоніі. Былі ў Оршы, выступалі там з сольным канцэртам у касцёле святога Іосіфа Абручніка. У прошлым годзе ездзілі на Фестываль мастацтваў у Кракаў, дзе выступалі ў Марыяцкай базіліцы з духоўнай праграмай. Але не маем надта многа часу для паездак, таму што дзяўчаты вучацца, а навучальны працэс у нас дастаткова інтэнсіўны. Яны ж яшчэ займаюцца ў сваім вучэбным хоры, а хору „Concertino” яны аддаюць свой вольны час, дзе спалучаюцца навучанне і творчасць.

**— Вы гаварылі пра Беларусь і Польшчу. А ці ў іншых краінах таксама выступалі?**

— Яшчэ не ўспелі. Ёсць планы з'ездзіць у Германію. Ёсць магчымасць, ёсць дзе, але апошняе паўгоддзе мы рыхтаваліся на Фестываль царкоўнай музыкі.

**— Дзякую Вам сардэчна і жадаю поспехаў у цэлым спектры Вашых зацікаўленняў.**

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

---

Інстытут Вялікага княства Літоўскага

# www.ldki.lt

Калыска беларускай народнасці — Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) існавала паўтысячы гадоў. Аднак сённяшнія звычайныя беларусы з большага не ўсведамляюць важнасці існавання ў гісторыі гэтай краіны, якая абумовіла з'яўленне наступных беларускіх дзяржаўных утварэнняў. Магчыма, такая сітуацыя складваецца з-за таго, што гісторыі ВКЛ у школах і ўніверсітэтах не надаецца значнай увагі. Ды і ў паўсядзённым жыцці людзі не сутыкаюцца з напамінамі адкуль пайшла іх дзяржаўнасць, не прыгадваюцца значныя гістарычныя падзеі і постаці тых часоў.

Паколькі гісторыя ВКЛ гэта спадчына не толькі беларусаў, але і прылеглаючых народаў, то, нягледзячы на сённяшнюю беларускую абыякавасць да гэтага перыяду сваёй гісторыі, у іншых краінах яму надаецца належная ўвага. Так, напрыклад, у Літве ад 2009 года існуе Інстытут Вялікага Княства Літоўскага, пра які больш падрабязна можна даведацца, наведаўшы яго сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе **www.ldki.lt.**

„Феномен Вялікага Княства Літоўскага, якое існавала болей чым 500 гадоў, да гэтага часу да канца не разгаданы. Гэта была дзяржава, дзе мірна суіснавалі многа народаў — літоўцы, палякі, беларусы, украінцы, рускія, яўрэі, татары, немцы і нават шатландцы. У адрозненне ад тагачаснай Заходняй Еўропы тут не было праследаванняў па нацыянальнай ці моўнай прыкмеце. Акрамя гэтай унікальнай талерантнасці і мастацтва сужыцця, развівалася таксама грамадская супольнасць са сваімі свабодамі і дэмакратычнымі традыцыямі, якая не мае аналагаў”, — распавядаецца на старонцы „Пра Інстытут”.

Там жа стваральнікі Інстытута, якія, дарэчы, месцяцца ў Коўне, прэзентуюць яго. Згодна пададзенай інфармацыі, Інстытут Вялікага Княства Літоўскага — гэта публічная ўстанова, якая дзейнічае нон-профіт і клапоціцца пра спадчыну ВКЛ, яе даследаванне і прапаганду. Найбольш важным сярод мэт і задач Інстытута варта адзначыць тое, што ён надае вялікую ўвагу не толькі ўласна гісторыі ВКЛ, але і прапагандзе ведаў аб культурных і палітычных традыцыях той дзяржавы для шырокіх колаў грамадскасці. Заснавальнікамі ж Інстытута з'яўляюцца фізічныя і юрыдычныя асобы з Польшчы і Літвы. Усе яны ўзгадваюцца на старонцы „Заснавальнікі і пайшчыкі”. Склад навуковай рады, адміністрацыі, спонсары і кантакты Інстытута ўказаны на аднайменных старонках, выйсці на якія знаходзяцца з левага боку цэлага выяўлення.

Нягледзячы на вялікую колькасць значнай інфармацыі, якую падае сайт Інстытута ВКЛ, ён усё ж такі патрабуе ўдасканалення. Так, старонка „Галерэя” змяшчае цікавыя па назвах матэрыялы, адкрыць якія не ўяўляецца магчымым.

Раздзел сайта „Праекты” змяшчае інфармацыю пра рэалізаваныя і намечаныя Інстытутам да рэалізацыі задумкі. Сярод іх Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі, што запланаваны на кастрычнік у Коўне, стыпендыя для студэнтаў на побыт у Варшаве, літоўска-польскі семінар.

Раздзел „Тэмы” — гэта своеасаблівая стужка навінных паведамленняў і абвестак, якія падзеленыя тэматычна. Там мы можам даведацца пра падзеі, звязаныя з Інстытутам, публічныя лекцыі і дыскусіі, стыпендыі і прэміі і гэтак далей.

Ну а паколькі, як узгадвалася вышэй, ВКЛ было шматнацыянальнай краінай, то і сайт змяшчае некалькі моўных версій. Акрамя беларускай там ёсць польская, літоўская і ўкраінская.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

# Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Заснавальнік „Шыпшыны”

## 110 гадоў з дня нараджэння Юркі Віцьбіча

Беларускі пісьменнік, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі Юрка Віцьбіч (сапраўднае прозвішча Серафім Шчарбакоў) нарадзіўся 15 чэрвеня 1905 г. у горадзе Вяліж Віцебскай губерні (цяпер Смаленская вобласць). Яго бацька быў праваслаўным святаром, маці — настаўніцай (яна паходзіла з Полачыны). Серафім скончыў педагагічны тэхнікум, год служыў у Чырвонай Арміі. У 1920-х гадах будучы пісьменнік скіраваўся ў Маскву, дзе працаваў на будоўлі, а пазней на хімічных заводах. Першае апавяданне Юркі Віцьбіча выйшла ў 1929 г. на старонках часопіса „Узвышша”. У 1932 г. была выдадзена кніга яго прозы „Смерць Ірмы Лаймінг”. У 1937 г. выйшла другая кніга прозы „Формула супрацьўлення касцей”.

У час Другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі Віцьбіч удзельнічаў у культурніцкім жыцці Беларусі. Вядомы факт, што ў 1943 г. перавёз з Віцебска ў Полацак парэшткі Ефрасінні Полацкай — яны вярнуліся ў Спаса-Ефрасінеўскі манастыр. Юрка Віцьбіч неаднаразова бываў у Полацку. У адным са сваіх твораў ён апісаў, як прыехаў у старажытную сталіцу: сярод ночы, камендацкай часіны прысеў на ганак старой камяніцы і нечакана ўбачыў у перакрыжаванні нямецкіх пражэктараў крыжы Сафійскага сабора. Крыжы гэтыя, як напісаў Віцьбіч, сталі для яго духовым арыенцірам на ўсё астатняе жыццё. Пісьменнік у сваім творы „Лшоно Габоо Біўрушалайм” („Наступнага году ў Іерусаліме”) апісаў жыццё полацкага мястэчка „знутры” — з побытам і каларытам беларускага і габрэйскага асяроддзяў. Літаратуразнаўцы адзначаюць, што падобных твораў у беларускай літаратуры больш няма.

У 1944 г. Юрка Віцьбіч разам з Беларускай Цэнтральнай Радай выехаў у Германію. Выступаў на Радыё Свабода, у 1945 г. заснаваў літаратурную суполку „Шыпшына”, друкаваў аднайменны часопіс (усяго выйшла 10 нумароў, апошні ў 1950 г.). Арганізаваў выданне часопіса „Звіняць званы Святой Сафіі”, рэдагаваў „Беларускі голас”. У 1956 г. у Мюнхене Юрка Віцьбіч здолеў выдаць кнігу-нарыс „Плыве з-пад Святое гары Нёман”.

Юрка Віцьбіч друкаваўся ў рускамоўнай газеце „Новое русское слово”, быў яе шматгадовым аўтарам. За гэта яго шмат хто з беларусаў крытыкаваў. Але Віцьбіч быў адным з першых, хто знаёміў чытачоў „Нового русского слова” з беларускай нацыянальнай ідэяй, таксама бараніў погляды беларусаў, якія імкнуліся аднавіць незалежнасць Беларусі. У 1975 г., пасля смерці пісьменніка, у Нью-Йорку Фонд імя Пётры Крэчэўскага выдаў кнігу на рускай мове „Мы дойдём!”. У кнігу ўвайшлі і публікацыі з „Нового русского слова”.

Вядомы беларускі паэт-эмігрант Алесь Салавей так характарызаваў пісьменніка: „Віцьбіч з'яўляецца чалавекам, які больш як хто іншы аддаў сілаў, думкі і крыві за беларускую справу. Адмаўляць сёння Юрку Віцьбіча як пісьменніка — значыць рабіць пагром на беларускай літаратуры на эміграцыі”.

У сённяшняй Беларусі па зразумелых прычынах Юрка Віцьбіч не ўшанаваны. На свята ўгодкі літаратара полацкія пісьменнікі і грамадскія актывісты паспрабавалі ідэнтыфікаваць у Полацку месца яго назірання і прыдумалі „ганак Віцьбіча”, куды ўсклалі кветкі ў гонар выдатнай постаці нашай гісторыі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сямейны пікнік

**Таварыства аніматараў лакальных ініцыятыў «Амега» ў Чаромсе, супольна з мясцовым гуртком Польскага саюза вудзільшчыкаў «Сінец» (папольску: «Rozpiór»), 4 чэрвеня над Рэпчыцкім вадаёмам арганізавалі сямейны пікнік. Ініцыятарамі мерапрыемства ад таварыства «Амега» былі Уршуля Савіцкая і Моніка Ярмуловіч ды Марк Тычына і Дамінік Мазурэк ад гуртка «Сінец».**

Арганізатаркі пры вогнішчы. Злева: Моніка Ярмуловіч і Уршуля Савіцкая – завадатаркі «Амегі»

Сустрэча пачалася ў чатырнаццаць гадзін. Удзельнікі дабіраліся на ўласным транспарце і самі забяспечваліся харчовымі прадуктамі. Пры паветцы над вадаёмам развялі касцёр. Была печаная каўбаска. Прыемна было падыхаць чыстым, духмяным паветрам ды пазагараць над вадою. Аматары рыбалкі займаліся рыбалоўляй. Дзеткам прапанаваліся шматлікія конкурсы і гульні. Фурор зрабіў конкурс для юных вудзільшчыкаў. Шмат цікавасці выклікала здабыванне чарвякоў для прынады. Малечы выкопвалі іх самі на мяжуючых з вадаёмам палетках. Перамагаў той, хто злавіў большую рыбу або самую вялікую колькасць меншых. А пасля аб'яўлення вынікаў былі памятныя «Медалі рыбака» і рэчавыя падарункі. Медалі ўстанавіў гурток Польскага саюза вудзільшчыкаў «Сінец», а ўзнагароды — Белавежскі інстытут даследавання млекакормячых, Белавежскі нацыянальны парк і аптэка «Віта» ў Чаромсе. Карыстаючыся нагодай, я правёў кароценькую размову са старшынёю гуртка вудзільшчыкаў Маркам Тычынам.

— Гурток наш лічыць каля 120 членаў, — сказаў суразмоўца. — Арганізаваліся мы ў палове васьмідзясятых гадоў. У сваёй дзейнасці намагаемся зацікавіць гэтым відам спорту моладзь, а тым самым адцягнуць юнакоў ад дрэннай звычкі праседжваць за бакалам піва. Адной з праблем чаромхаўскіх вудзільшчыкаў з'яўляецца тэта, што Рэпчыцкі вадаём адміністрацыйна належыць да Мазавецкай акругі ПСВ, а мы падначалены Беластоцкай акрузе. Затым вымушаны мы дадаткова аплачваць членскія ўзносы ў Мазавецкую акругу. Гадавая складчына ў Падляшскай акрузе складае 180 зл., моладзь да шаснаццацігадовага ўзросту плаціць 18,50 зл. у год, а асобы пасля 65 году жыцця — палову поўнай стаўкі, г.зн. 90 зл. У Мазавецкай акрузе складчына меншая, бо 120 зл. у год. Чаромхаўскія рыбаловы трацяць пры тым 60 зл., бо вымушаны палову гадавой стаўкі плаціць Мазавецкай акрузе ПСВ. Аквены падлягаюць Агенцтву мадэрнізацыі і рэструктурызацыі сельскай гаспадаркі. Мазавецкая акруга ПСВ арандуе Рэпчыцкі вадаём да 20 чэрвеня 2025 года. І нельга гэтага адмяніць, — заявіў з сумам Марк Тычына.

Як сцвярджалі арганізатары пікніка, імпрэзу лічаць удалай і ў цякучым летнім сезоне не апошняй. Затым да наступнай сустрэчы на ўлонні натуры.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Рэзультат пратэсту жыхароў Ляўкова і наваколля

Стараста Гайнаўскага павета Мірaслаў Раманюк падтрымаў патрабаванні жыхароў Старога і Новага Ляўкова ды суседніх сёлаў, якія пратэстуюць супраць перапрацоўкі адкідаў побач Ляўкова («Ніва» № 24 ад 14 чэрвеня г.г.). 8 чэрвеня жыхары гэтых вёсак перадалі гайнаўскаму старасту пратэстныя лісты, на якіх падпісаліся 350 асоб, а 100 жыхароў у індывідуальным парадку выказалі на пісьме сваю нязгоду на перапрацоўку адкідаў. 9 чэрвеня стараста Міраслаў Раманюк накіраваў у Самаўрадавую касацыйную калегію ў Беластоку зварот з далучанымі лістамі пратэсту жыхароў Ляўкова і наваколля ў справе адмены дазволу Гайнаўскага старасцтва на перапрацоўку адкідаў, якое атрымала Гарадское прадпрыемства ачысткі з Беластока. Прадпрыемству дазвалялася перапрацоўваць адкіды побач Ляўкова, між іншым, лётныя попелы з торфу і драўніны.

— Мясцовае грамадства Ляўкова і наваколля не хоча перапрацоўкі адкідаў у сябе. Мы, як павятовы самаўрад, трымаем бок грамадства, — заявіў гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк.

**Аляксей МАРОЗ**

# 21.06 — 27.06

**(22.03. – 20.04.)** Пасля 24.06. у тваім атачэнні паявіцца хтосьці, з кім можна «коней красці» — можа аказацца любоўю твайго жыцця. Праяўляй ініцыятыву. Адчуеш тады вялікую моц. Удасца паставіць табе здаровыя межы. 21-25.06. можаш высветліць шмат сямейных спраў, ды не пераборшчвай у дыскусіі і стаўлянні ўсіх па кутках. Пасля 25.06. не зашкодзь сабе — могуць быць праблемы і пачуццё адчужанасці; прыйдзецца табе дастасоўвацца да іншых.

**(21.04. – 21.05.)** Памятай, што здароўе пачынаецца з талеркі. Праўда, любіш звычайную ежу, але зрабі яе больш разнастайнай, прынамсі экзатычна прыправў, папраўіцца і настрой. Калі дакучаць будзе табе пухліна, не глытай таблетак, а займайся гімнастыкай — гэта палепшыць твой кровазварот. Абдумана выдавай грошы.

**(22.05. – 22.06.)** 21-25.06. кепскі момант на важныя вызначэнні і фінансавыя мерапрыемствы; можаш штосьці зразумець навыварат. Для Блізнят у пары вельмі добры час на духовае і цялеснае паразуменне. Хутка рэалізуй незавершаныя раней абдуманыя праекты, не ўпусці часу, бо справы могуць ускладніцца. Вельмі дбай аб свой кровазварот. Не перанатужвайся на трэніроўках.

**(23.06. – 23.07.)** Атрымаеш ад зорак мноства энергіі і энтузіязму. Дасі рады кожнаму выкліку і прафарсіруеш кожны план. Маеш шанцы дасягнуць вяршынь! Разгружай лішак энергіі фізічнай актыўнасцю.

**(24.07. – 23.08.)** Вернуцца твая вялікая жвавасць і выдатны настрой. Дбай аб свой стрававальны шлях, старайся не есці смажаных, цяжкіх страў, лепш адмоўся ад алкаголю, бо, замест радавацца надвор'ем, будзеш стагнаць у пасцелі. А паявяцца шанцы на лепшыя заробкі.

**(24.08. – 23.09.)** Папулярнасць — будзеш у цэнтры ўвагі! Але абавязкі на працы могуць памяшаць у сямейным жыцці. Хацеўшы справіцца з гэтым, можаш падпасці і на рабоце, і дома. Пільнуйся, каб хтосьці цябе не ашукаў. Не ўсчынай цяпер важных сямейных размоў. З 24.06. станеш больш спантанным і адкрытым, паявяцца новыя магчымасці ў кампанейскім плане.

**(24.09. – 23.10.)** Баран пазайздросціць табе поспеху і захоча прысабечыць твае дасягненні. Казярог паможа табе аформіць важную справу. Не плануй вялікіх пакупак і лепш абмінай крамы, у якіх можаш выдаць зашмат грошай. У апошнія дні тыдня вельмі пільнуй свайго здароўя, бо пагражаюць табе праблемы, з якімі доўга трэба будзе змагацца.

**(24.10. – 22.11.)** Старайся як найчасцей быць па-за домам. Пазнаёмішся з новымі людзьмі, рознымі ад цябе, сустрэне цябе штосьці асаблівае, што можа адмяніць тваё жыццё. Скажы «не!» руціне, адмяні сваё атачэнне. Не пераборшчвай з загараннем і плаваннем — скокі тэмпературы могуць быць для цябе згубнымі!

**(23.11. – 22.12.)** Зменіш у жыцці тое, чаго дагэтуль немагчыма было зварухнуць. Шукай новых дарог, а апынешся на сцежцы, якая табе спадабаецца. Будзеш ажыўлены і цікавы свету. Можаш выбрацца туды, дзе ніколі яшчэ не быў.

**(23.12. – 20.01.)** У пачуццях найлепш Казярогам народжаным 3-11.01. У старым сужонстве — другая маладосць. 20-24.06. урэшце зможаш адпачыць ад кампанейскіх турбот, аддыхнуцца і заняцца самім сабою. Не дайся звабіць спадзяваннем хуткага прыбытку — гэта можа давесці да нечаканых праблем. Варта паашчаджаць, грошы неўзабаве табе спатрэбяцца.

**(21.01. – 19.02.)** Папраўяцца твае арганізацыйныя здольнасці і крэатыўнасць, дзякуючы чаму можаш узяцца за адважныя прафесійныя прыёмы; кіраўніцтва гэта прыкмеціць і ўзнагародзіць. Будзеш мець вельмі ўражлівы стрававальны шлях — абмяжуй салодкае і тлустае. Праводзь час з блізкімі і сябрамі. Стралец табе паспрыяе, а Казярог стане за табою сцяной. Пагрозы Блізнят пакладзі між казкі. Словы крытыкі Дзевы могуць табе забалець.

**(20.02. – 21.03.)** Калі адчуеш, што новы знаёмы надаядае — уцякай, бо шкода часу! Прытрапіцца табе геніяльная задума, як адцяцца ад асоб, якія незычлівыя і несардэчныя для цябе. Можа, акілзнаеш нават цешчу? Усё пойдзе ў добры бок! 21-25.06. пільнуйся, каб цябе хтосьці не ўвёў у зман. Прыліў энергіі, жыццярадаснасці, ахвота пабарукацца з новымі выклікамі. Можаш пачаць забытыя трэніроўкі, а прынамсі шпацыруй на свежым паветры. Хаця не перанатужвай пазваночніка, не насі цяжкага.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | 2 | | | 3 | | | |
| | | | | | | | 4 | | | 5 | | | | |
| 6 | | | | | | | | 7 | | | | | | |
| 8 | | | | | | 9 | | | | | 10 | | | |

1. вялікае афрыканскае дрэва, 2. галоўны гмінны чыноўнік, 3. неажыццявімая мара, 4. волат са старажытнагрэчаскіх міфаў, 5. вакальны ансамбль, 6. вялікая афрыканская выспа на Індыйскім акіяне, 7. пеністы налёт на паверхні ўзбуранай вадкасці, 8. гары ў Румыніі, 9. паўночная суседка Тэхаса, 10. прыбор у выглядзе сталёвай вілкі, які выкарыстоўваецца для настройкі музычных інструментаў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Веча, амерыканка, моладзь, мат, Варшава, Каір, маска.

Рашэнне: **Дзе чарка, там і сварка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.



Чарга перад палаткай з дранікамі, якія смажылі Анна Франкоўская і Магда Кос



Танцы пад музыку калектыву «Арт-Пронар» з Нарвы

# ЭТНАГРАФІЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ГАЙНАЎСКАГА БЕЛМУЗЕЯ

Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах» паўстаў на аснове этнаграфічных фэстаў, якія сем разоў арганізаваліся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Фестываль «Культура на музейных сходах» стаў таксама пастаянным беларускім мерапрыемствам. 7 чэрвеня гэтага года на тэрыторыі Гайнаўскага белмузея ўжо адзінаццаты раз было наладжанае гэтае этнаграфічнае мерапрыемства. Перад шматлікай публікай на прымузейнай плошчы выступілі калектывы, якія запрэзентавалі беларускую музыку. Даўнія рамёствы паказвалі народныя майстры. Асабліва наймалодшым удзельнікам фестывалю цікава было паглядзець працу рамеснікаў. Дзеткі вучыліся, між іншым, ляпіць з гліны гаршкі, ткаць палавік, плесці саламяную талерку. На прымузейнай пляцоўцы можна было таксама прыдбаць беларускія кніжкі, кружэлкі з беларускай музыкай, народнае рукадзелле, з'есці бульбяныя дранікі, ці купіць дзеткам цацкі.



Першыя беларускія этнаграфічныя мерапрыемствы сталі ладзіць у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы працаўнікі белмузея — Тамаш Ціханюк, тады адказны за культурную дзейнасць і Наталля Герасімюк, тадышняя бібліятэкарка. Усё адбывалася пад наглядам тадышняга дырэктара музея Янкі Карпюка. Першы белэтнафэст «Культура на музейных сходах» тычыўся ільняных кашуль — публіцы былі запрэзентаваны даўні працэс выканання кашуль, пачынаючы з апрацоўкі ільну. Падчас фэсту «Сонца ў саломцы» прэзентавалася саломапляценне, а ў час этнафэсту «Не святыя гаршкі лепяць» — выраб глінянага посуду. Фэст «Свята беларускага хлеба» тычыўся традыцыйнай выпечкі хлеба, а падчас мерапрыемства «Сто твараў лазы» паказвалася выплятанне прадметаў з лазы. Белмузейныя этнафэсты былі арганізаваны на прымузейным панадворку, а ў выпадку дрэннага надвор'я — у музейных памяшканнях. Памятаю, што ў будынку адбыўся «Бульбафэст» арганізаваны восенню, пасля ўборкі бульбы. Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк вырашыў спалучыць усе фэсты ў адзін вялікі Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах» і паказваць падчас яго народнае рамяство і рукадзелле. Зараз наведвальнікі этнаграфічнага фестывалю могуць знаёміцца з даўнімі прафесіямі і заняткамі ў адным часе і ў адным месцы, на прымузейнай плошчы, і гэта вялікі козыр музейнай імпрэзы. Аднак цяпер немагчыма падрабязна расказаць пра паасобныя заняткі і дакладна паказаць іх на практыцы, як рабілася гэта падчас паасобных фэстаў, але гэта можна рабіць падчас майстар-класаў, якія Гайнаўскі белмузей арганізуе для школьнай моладзі. Усё ж такі цяперашні вялікі фестываль прыцягвае намнога больш публікі, чым паасобныя этнафэсты, і гэта спрыяе прапагандаванню беларускай культуры і беларускай музыкі публіцы, сабранай на музейнай пляцоўцы. У нядзелю, 7 чэрвеня, многа наведвальнікаў сабралася на прымузейнай плошчы. Чарга выстраілася і перад палаткай, у якой бясплатна частавалі бульбянымі дранікамі.

— Расходавалі мы 60 кілаграмаў бульбы, але ўсё яшчэ былі ахвотныя пакаштаваць дранікі, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Франкоўская, якая з Магдай Кос смажыла дранікі.

Уладзімір Ціханюк прапанаваў смакаваць каўбасу сваёй вытворчасці. Дзеткі ахвотна ляпілі гаршкі з гліны пад наглядам Міраслава Пяхоўскага з Чорнай Всі Касцельнай.

— Сівакоў ужо няма, але можна купіць у мяне гліняны посуд натуральнага колеру і размаляваны. Некаторым дзеткам удаецца выканаць прыгожыя гаршкі. Тыя, што першы раз селі за ганчарнае кола, толькі вучацца апрацоўваць гліну, бо гэта нялёгкі занятак, — патлумачыў Міраслаў Пяхоўскі.

Побач Зоя Майстровіч з Рудутаў вучыла дзеткі і дарослых плесці з саломы талерку і выконваць саламяныя цацкі і сувеніры.

— Каб нешта сплесці з саломы, трэба даўжэй папрацаваць. Дзеткі крыху выплятаюць і вучацца выконваць цацкі з саломы, — патлумачыла спадарыня Майстровіч.

На кроснах, за якімі сядзела Ірэна Ігнацюк з Ляўкова, прабавалі ткаць дзеткі. Пасля каля кроснаў затрымаліся жанчыны, якія сталі размаўляць са спадарыняй Ірэнай аб спосабах ткання і аб узорах. Сярод іх была Вера Прыступюк з Гайнаўкі, якая восенню мінулага года вяла майстар-класы па тканню для жанчын з Гуртка вясковых гаспадынь у Дубінах.

— Старэйшыя жанчыны з настальгіяй глядзяць на кросны і затрымліваюцца, каб пагаварыць пра ткацкую справу. Турысты распытваюцца, ці я не навучыла б іх тканню. Я дала ім нумар тэлефона і запрасіла прыехаць у агракватэру ў Ляўкове, дзе магу вучыць тканню, — паведаміла Ірэна Ігнацюк.

— Сёння ў нас яшчэ больш, чым гэта бывала ў мінулых гадах, рукадзельнікаў, якія прыехалі з Рэспублікі Беларусь. Прыбылі майстры па тканню з Брэста, майстры па выконванню вырабаў з гліны — з Гродна і майстар па выцінанцы Вольга Бабурына з Мінска. Наведвальнікі нашага фестывалю могуць параўнаць вырабы, якія выканалі мясцовыя рукадзельнікі і творцы з Беларусі. Мы рады, што сёлета выступіць у нас Зміцер Вайцюшкевіч з гуртам **«WZ ORKIESTRA»**, — сказаў дырэктар музея Тамаш Ціханюк.

— Людзі купляюць сувеніры з гліны і саломкі. Тут цёплая атмасфера, чуем многа беларускіх песень і гэта радуе, — заявілі Святлана Круглаполава і Таццяна Шубіна з аб'яднання «Гродзенскі каларыт», якія прадавалі сваё рукадзелле.

Намесніца дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Юлія Рубіна патлумачыла, што па запрашэнню КЦБ прыехалі творцы з Гродна і Мінска ды мінскі музычны калектыў «Гурма». Ёй таксама падабалася атмасфера беларускага фестывалю і пахваліла белмузей за актыўнасць. Самастойна прыехалі творцы з Брэста, якія, наладзіўшы супрацоўніцтва з музеем, штогод прыязджаюць на этнафестываль.

— Раней мы прадавалі перш за ўсё вышываныя вырабы. Зараз прапануем тканыя паясы і традыцыйныя беларускія лялькі нашай вытворчасці, — гаварылі дзве спадарыні Тамары з групы «Творчасць» пры Доме Рамёстваў у Брэсце.

— Мне падабаюцца заняткі, якія сёння арганізуе аб'яднанне «Яны, гэта мы» з Гайнаўкі. Дзеткі пад наглядам дарослых асоб у цікавы спосаб размалёўваюць сумкі, — сказала Агнешка Ціханюк з белмузея, якая разам з іншымі працаўнікамі і сімпатыкамі музея прадавала беларускія кніжкі, кружэлкі і сувеніры.

Багатая музычная прапанова трымала публіку на прымузейнай плошчы ажно шэсць гадзін. Перад сабранымі адважна і цікава выступілі дзеткі з калектыву «Калебка» Дзіцячага садка № 1 у Гайнаўцы, якімі апякуюцца настаўніцы Мірослава Ніканчук і Ала Супрун. Беларускія песні запрэзентавалі калектыў «Сунічкі» Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы, якім апякуецца Ангеліна Масальская і калектыў «Ручаёк» з Белавежы, якога музычным кіраўніком з'яўляецца Марк Зубрыцкі.

— Нашым дзеткам цікава было выступіць на такім вялікім мерапрыемстве. Раней выступалі мы ў белмузеі падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў». У рэпертуары калектыву «Метро» з Гайнаўкі ёсць беларускія песні, якія выконваюць нашы «Сунічкі». Калі нашы дзеткі ўчулі іх, пачалі падпяваць. Выступы дзетак на імпрэзах заахвочваюць іх да большай актыўнасці ў нашым калектыве. Усе яны ў школе вучацца беларускай мове і тут на практыцы могуць пачуць беларускую мову на сцэне і ў размовах з творцамі, — сказала Ангеліна Масальская.

Займальна выступіла тэатральная група, што дзейнічае пры Аб'яднанні АБ-БА ў Беластоку. Калі з меладычнымі беларускімі творамі пачалі выступаць калектывы «Метро» з Гайнаўкі, «Нарва» з Нарвы і перш за ўсё «Арт-Пронар» з Нарвы, частка публікі каля сцэны пачала танцаваць. Лік танцуючых асоб пажылога ўзросту перавышаў колькасць дзетак, якім асабліва падабался займацца народным рукадзеллем. Мерапрыемства ўдала вялі Паўліна Паўлючук-Коська і Марыёля Герман. Калектыў **«RETRO BEATS»** з Гайнаўкі, музыканты якога раней выступалі ў белмузеі ў гурце «Брыгада дрывасека», выконваў, між іншым, вядомыя беларускія песні ў сваёй аранжыроўцы. Калектыў «Гурма» з Мінска выступіў у Польшчы ўпершыню і захапіў публіку.

— Мы выступаем з аўтарскімі песнямі і з поп-рокам. Асабліва падабаецца мне атмасфера фестывалю, дзе многа беларускіх песень, можна купіць беларускія кніжкі і гучаць размовы па-беларуску, — сказаў Мікіта Найдзёнаў з Мінска. Першы раз размаўляў я з ім падчас мінулагодняй «Бардаўскай восені». Тады выступіў ён з аўтарскімі песнямі падчас конкурснага адбору. Піша ён творы для гурта «Гурма» і іншых калектываў.

Зоркай беларускага этнафестывалю быў Зміцер Вайцюшкевіч са сваім гуртом **«WZ ORKIESTRA»**.

— Мы рады, што сёлета выступае ў нас Зміцер Вайцюшкевіч з гуртом **«WZ ORKIESTRA»**, бо раней выступаў ён у нас толькі індывідуальна, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960